PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 4 (1915) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 24 СТУДЗЕНЯ 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

Пасля Калядаў апынулася без працы

## НЕ ПАШЧАСЦІЛА З ПРАЦАДАЎЦАМ

У панядзелак пасля праваслаўных Калядаў у нашу рэдакцыю прыйшоў чалавек. Калісьці працаваў ён настаўнікам, быў нават дырэктарам школы, пасля трыццаці гадоў працы ў школе перайшоў на пенсію. Пенсія нагэтульkі невялікая, што ўзяў сабе працу дазорца ў беластоцкім будаўляным каапературве „Piaski", каб зарабіць на хлеб і да хлеба. Кааператыў „Piaski" наогул цяпер нічога не будуе, а займаецца, між іншым, адміністраваннем раней пабудаванага гандлёвага павільёна пры вуліцы Легіяновай, у якім наймае памяшканні рознай прыватнай ініцыятыве.

Чалавек прыйшоў не з уласным клопатам. Аказваецца, у пятніцу (другі дзень Калядаў) звольнілі з працы прыбіральшчыцу, Аліну Давідзюк, паставіўшы ёй закід у невыкананні працоўных абавязкаў. Маўляў, яна паехала на два дні на свята да радні ў вёску, а прыдзеленыя ёй памяшканні засталіся непрыбранымі. Чалавек быў узбураны, паколькі сам быў сведкам размовы Аліны Давідзюк з працадаўцам (аентам Тадэушам П.), калі яна паведамляла яму, што выязджае святкаваць, а ў гэтую непрысутнасць прыбярэ за яе якраз ён, дазорац. І што больш, ён гэтую працу выканаў. У чым тут справа?

У рэдакцыі пабывала і спадарыня Давідзюк. Распавяла яна нам збольшага пра свой лёс. 20 гадоў працавала ў Беластоцкім будаўнічым камбінаце (у тым 8 гадоў інспектарам). Даволі нешчаслівa зламала на будове нагу, год часу лячыла яе ў шпіталі, пасля яшчэ шмат часу не была ў змозе нармальна працаваць. У фірме запрапанавалі ёй пасаду начнога парт'е, але яна пабаялася працаваць уначы. Звольнілі яе, даўшы пасведчанне, што звальненне наступіла ў выніку скарачэння штатаў. Дзякуючы гэтаму яна магла атрымліваць засілак для беспрацоўных. Але ў лістападзе мінулага года засілак скончыўся. Муж спадарыні Аліны мае зарэгістраваную гаспадарчую дзейнасць як столяр. Заказаў, аднак, у апошні час бывае няшмат, і сям'і Давідзюкоў даводзілася тугавата. Таму ўжо два разы яны звярталіся ў грамадскую апеку (Opieka Społeczna) за дапамогай, бо не было з чаго заплаціць чынш за кватэру. Калі Тадэуш П., што жыве ў суседнім блёку, запрапанаваў Аліне Давідзюк працу прыбіральшчыцай за 600 тысяч злотых у месяц, яна згадзілася. Грошы невялікія, але ўсё-такі занятак ёсць, што таксама немалаважнае.

Аліна Давідзюк працавала, як ужо мы адзначылі, усяго месяц часу. Адну сваю выплату атрымала, як кажуць, з рукі ў руку, аніякага подпісу нідзе не ставіла. Адносіны з працадаўцам (аентам Тадэушам П.) не былі добрыя: нават шчоткі ці анучкі не атрымала, а і чысцільна-санітарных сродкаў, неабходных для працы прыбіральшчыцы,

☞ Працяг на стар. 3



*Свята святам, а кароўку накарміць трэба.* **Фота Уладзіслава Завадскага**
*Пра аўтара здымка чытайце на старонцы 7.*

## СЛІЗГАТА

6 студзеня, на Куццю, кончыў я працу дзесьці ў адзінаццаць. Заставалася яшчэ сёе-тое купіць і ехаць дахаты сустракаць першую зорку за святочным сталом. Абсправіўшы за паўгадзіны невялікія пакункі, падаўся я на аўтобусны прыпынак. Пачаў сыпаць дробненькі дожджык, але я на яго нават увагі не звярнуў. Думаў па дарозе, як напісаць пра тое, што ў Гайнаўцы і ў Бельску не хапіла рыбы перад праваслаўнымі Калядамі.

Аўтобус у напрамку Бельска не затрымаўся. Гэта невялікая бяда, падумалася мне, праз колькі хвілін будзе другі, а за ім наступны, і наступны. Стаяў я сабе спакойна на прыпынку, думаў пра розную драбязу і, ад нуды, глядзеў на аўтамашыны, што праносіліся па алеі Пілсудскага. Дожджык усё ішоў, невялікі, але даволі дакучлівы, калі пастаяць даўжэй. Аўтобус спазняўся.

У пэўны момант заўважыў я, што машыны рухаюцца выразна памалей. Людзі таксама сталі хадзіць нейк ненатуральна, раскарачыўшыся. Зрабіў я крок-другі і ўсё зразумеў, ледзь не шлёпнуўшы прытым на абледзянелы тратуар. Глянуў я на сваю сумку, а яна паспела ўжо пакрыцца тонкай, шклістай ледзяной абалонкай. Гарадскія аўтобусы пачалі затрымлівацца дзе папала, выплёўваючы са свайго нутра натоўп пасажыраў, якія, коўзаючыся, а то і падаючы, памалу разыходзіліся кожны ў свой бок.

Відаць было, што мой аўтобус не прыедзе. Давай я тады памаленьку, сям-там прытрымліваючыся паркана або муру, брысці назад у "Ніву", дзе ўжо быў я

☞ Працяг на стар. 3

*На 10 студзеня кіраўніцтва Беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы склікала V З'езд арганізацыі. Быў гэта другі падыход дзеля яго правядзення. Ні за першым, ні за другім разам не аказалася неабходнага для такога зборышча кворуму.*

## БАС - ЗГАС?

### НЕФАРТОВАЯ ВОСЕНЬ

Восень 1992 года мела абрадзіць у грамадска-палітычныя падзеі, а нават рэлігійныя. У Беларусі ўсенародны рэферэндум меў распусціць Вярхоўны Савет рэспублікі. У Варшаве Памесны сабор Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы меў рэфармаваць Адзіную Найсапраўдную. Таксама восенню свой з'езд мела правесці Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Намераў гэтых, відаць, аказалася зашмат як на адну пару года, бо: з невядомых прычын не адбыўся з'езд БГКТ, Вярхоўны Савет разагнаў рэферэндум, нягледзячы на неюрыдычнасць гэтага кроку, а яго Праасвяшчэнства мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы адтэрмінаваў Сабор. Шэраг беларускіх няшчасцяў дапоўніўся 19 снежня 1992 года, калі меў адбыцца V З'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў. Зразумела, не адбыўся.

### БАСАЎЦАЎ ПЕРАСЦЕРАГАЛІ...

...у ходзе перарэгістрацыі (сядзіба Аб'яднання пераносілася з Варшавы ў Беласток), каб адмяніць запіс у статуце аб штогадовых з'ездах. "Вы "запіцеся" гэтымі штогадовымі з'ездамі", - гаварыла БАСаўцам спадарыня Тэрэса Хвойка з Ваяводскага суда ў Беластоку. Не паслухаліся. Неабходнасць штогадовых з'ездаў абумоўлена ратацыяй студэнтаў, аргументавалі БАСаўцы. Штогод нехта канчае вучобу і, штогод, нехта новы яе пачынае. З'езд патрэбны хаця б для бягучай верыфікацыі людскога патэнцыялу Аб'яднання.

### ВЕРЫФІКАЦЫЯ ЛЮДСКОГА ПАТЭНЦЫЯЛУ...

...загнала Аб'яднанне ў тупік. 19 снежня мінулага года сабралася чалавек пад дваццаць. Гэта нямала, калі ўлічыць тое, што прыйшлі тыя, якія клапоцяцца пра будучыню арганізацыі. Не з'явілася, на жаль, Рэвізійная камісія і, у выніку, не было як адклікаць улад Аб'яднання. 10 студзеня Рэвізійная камісія ўжо прысутнічала, але можна было заўважыць, што праваслаўныя Каляды адмоўна паўплывалі на агульную прысутнасць - лік прысутных сябраў быў недастатковы, каб вылучыць з яго новыя ўлады. Прысутныя пагадзіліся, што нешта трэба пастанавіць, каб напусцта не разыйсціся. Славамір Іванюк прапанаваў, каб з'езд правесці пры нагодзе нейкага культурна-забаўляльнага мерапрыемства. Прысутнасць гарантаваная - дзве

☞ Працяг на стар. 6

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Milicjanci z emblematami tryzuba, którzy w Kijowie pilnowali przejazdu polskiej delegacji z Krzysztofem Skubiszewskim, nie mieli prawie nic do roboty. Ruch na ulicach zamarł niemal całkowicie, bo nie ma benzyny.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 305)*

Здаецца, што тамака не толькі вулічны, але й палітычны „Рух" замёр амаль цалкавіта. Але наогул добра, што сястра Расея дае і столькі бензіну, каб падвесці замежную дэлегацыю з лётнішча ў цэнтр горада.

* * *

*Czy Lech Wałęsa był agentem SB?* — разважае суд у Аполі.
*(Gazeta Wyborcza, nr 305)*

Мы лічым, што несумненна быў, а нават і не быў.

* * *

*Kazik Staszewski, lider zespołu „Kult i Kazik", został przesłuchany w prokuraturze w związku z doniesieniem o profanacji symboli narodowych złożonym przez senatora Jana Szafrańca (ZChN).*
*(Gazeta Wyborcza, nr 305)*

Паясняем, што сенатара Шафраньца выбралі ў Беластоку, а Казік сьпяваў нейкую забаўную песеньку, у якой паўтараліся словы „Jeszcze Polska...".

* * *

*Wytłumaczcie narodowi, że słowo prawica nie musi oznaczać choroby psychicznej — prosił prawicowców Andrzej Małachowski.*
*(Polityka, nr 1)*

Яны, мабыць, маюць важнейшы занятак: спрабуюць тлумачыць, што слова „lewica" якраз гэтую хваробу абазначае.

* * *

*Szaleją wartości chrześcijańskie. Wciąż czyni się próby oddzielenia społeczeństwa od religii. W zamian za to preferuje się wolność słowa i wolność krytyki — grzmi senator Jan Szafraniec.*
*(Polityka, nr 1)*

Скажам сабе адкрыта: свабоды слова і свабоды крытыкі не павінна быць! Тады не будзе аніякага аддзялення — будзе еднасць народу з партыяй і vice versa.

* * *

*Inteligencja polska powoli pogrąża się w niebyt. Trochę szkoda — mógłby być z niej jednak jakiś pożytek.*
*(Polityka, nr 1)*

Калі б улада тую інтэлігенцыю даганіла...

* * *

*Handel Polski z 52-milionową Ukrainą jest kilkakrotnie niższy od naszej wymiany z 10-milionową Białorusią.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 1)*

Што даказвае — гандлюем не з тым, хто мае ахвоту гандляваць, а з тым, хто мае **чым** гандляваць.

* * *

*Po raz pierwszy w prasie chińskiej pojawił się nagi biust i to na pierwszej stronie.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 3)*

І не быў гэта бюст ні Мао-Цэ-Дуна, ні Леніна. Знак гэта самы выразны, што канец камунізму ў Кітаі ўжо блізкі. Яно заўсёды так пачынаецца: спачатку голая амерыканка на першай старонцы, а потым голая дэмакратыя пры выплаце кожнага першага чысла месяца.

* * *

*У нас есть всё. Даже банды...*
*(Во славу Родины, Газета Министерства обороны Республики Беларусь, н-р 215)*

А есть у вас что есть?

* * *

*Что нам делать без СССР?*
*(Знамя юности, н-р 163)*

Магчыма, добра было б зрабіць акуратныя кальсоны і шкарпэткі на зіму.

* * *

*Станіслаў Шушкевіч: „Добрая палітыка — гэта мастацтва".*
*(Звязда, н-р 246)*

Святыя словы. А беларуская палітыка — гэта мастацтва будучыні.

* * *

*Ці застануцца Беларусь і Малдова ў адной Садружнасці?*
*(Звязда, н-р 252)*

Не. Малдаванін нам, можа, і друг, але хай ён сам сабе варыць кашу.

* * *

*W czasie rewolucji kulturalnej w Chinach Czerwoni Gwardziści nie tylko torturowali swe ofiary, ale je zjadali. Ciała kontrrewolucjonistów gotowano i zjadano. W stołówkach zawieszano ciała ludzkie na hakach, a pracownikom podawano posiłki z ludzkiego mięsa. W zwyczaju chińskich komunistów było filetowanie mięsa na przyjęcia, dzielenie go na duże kawałki, aby każdy mógł przyrządzić w domu, pieczenie, wątroby...*
*(Gazeta Wyborcza nr 8)*

Хопіць!

## З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністр Ганна Сухоцка** прабывала з двухдзённым візітам на Украіне. Галоўнай мэтай перамоваў было гаспадарчае супрацоўніцтва. У выніку візіта былі падпісаны, між іншым, дамовы аб падтрымцы інвестыцый, аб пазбяганні падвойнага падаткаабкладання, а таксама аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве. Ганна Сухоцка сустрэлася з прэм'ерміністрам **Леанідам Кучмам**, старшынёй Вярхоўнага Савета **Іванам Плюшчам** і лідэрамі ўкраінскіх палітычных партый.

**Новым старшынёю Польскай экуменічнай рады** выбраны галава эвангеліцка-аўгсбургскага касцёла біскуп **Ян Шарэк**. У склад ПЭР уваходзіць сем некаталіцкіх хрысціянскіх касцёлаў, у тым ліку і Польская аўтакефальная праваслаўная царква. На закід у "калабарацыянізме" Рады з папярэднімі ўладамі новы старшыня сказаў: "Хто з нас быў і ёсць невінаваты, хто з нас не паддаваўся ідэалогіі? Патрэбна нам шчырая сапраўдная пакута, але ацэнку павінны мы пакінуць Богу, які ведае ўсю праўду". Біскуп Ян Шарэк заявіў, што Рада будзе працягваць намаганні стварыць Раду хрысціян з удзелам усіх хрысіянскіх канфесій, у тым ліку і з Рымска-каталіцкім касцёлам.

**Сітуацыя яўрэйскіх асяроддзяў** у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе - гэта галоўная тэма пасяджэння Прэзідыума Еўрапейскага кангрэса яўрэяў, якое адбылося ў Варшаве. На пасяджэнні было прынята рашэнне арганізаваць у нашай краіне вялікі семінар прысвечаны пытанням неталерантнасці; дыскутаваліся таксама праблемы расізму, ксенафобіі, антысемітызму і спосабы абароны перад гэтымі адмоўнымі з'явамі.

**Біскуп Эдвард Самсэль** у лісце да пробашча ў Пунску і да трох літоўскіх арганізацый /Супольнасць польскіх літоўцаў, Таварыства літоўцаў у Польшчы і Таварыства імя св. Казіміра/ заявіў, што ў Відугерах парафія не была створана і не прадбачваецца яе стварэнне ў будучым. Нагадаем, што стварэнню такой парафіі супрацьставіліся мясцовыя літоўцы. Усе бакі з задавальненнем прынялі паясненні біскупа, а літоўцы спынілі байкот калядавання і чакаюць новых тэрмінаў візіту духоўных у сваіх дамах. У Пунску гавораць, што лёсы касцёла ў Відугерах былі адной з тэм сустрэчы мясцовых літоўцаў з прэм'ерміністрам Літвы **Бранісловасам Любысам** у Сейнах 7 студзеня г.г.

**Міністэрства ўнутраных спраў** праблануе ўвесці візы і запрашэнні для грамадзян былога Савецкага Саюза /без Прыбалтыкі/, а таксама грамадзянам Балгарыі, новай Югаславіі, Македоніі, Босніі і Герцагавіны. Адной з прычын гэтага вырашэння з'яўляецца значны ўдзел грамадзян гэтых дзяржаў у агульным ліку ўчыненых у Польшчы злачынстваў.

**Сем ваяводаў** з паўночна-ўсходняй Польшчы /у тым ліку і беластоцкі/ абавязаліся занесці ў спісак ахоўных жывёл выдру, рыся, ваўка, глухара і цецярука.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ "Defekt mózgu" і іншыя часопісы зарэгістраваныя беластоцкім судом.
- ✓ Хрысціянскія канфесіі на Беларусі.
- ✓ "Ніва" зноў была ў Новаберазове.
- ✓ Люмпен-пралетарыят і інтэлігенцыя.

Педагагічная рада Пачатковай школы н-р 3 у Бельскі-Падляшскім выказвае глыбокае спачуванне сяброўцы настаўніцы
**ЗОСІ САЧКО**
з прычыны смерці
**БАЦЬКІ**

Педагагічная рада Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім выказвае глыбокае спачуванне сяброўцы настаўніцы
**МІРАСЛАВЕ МАРКЕВІЧ**
з прычыны заўчаснай смерці
**МУЖА**



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ПАЛІТЫК ГОДА

Сярэднегадавы рэйтынг старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча — 33,6 працэнта. На другім месцы лідэр апазіцыі Зянон Пазьняк — 6,6 працэнта. На трэцім — старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч — 4,7 працэнта. Сацыялагічныя апытанні праводзіліся беларускай службай „Грамадская думка".

Цікава, што ў сакавіку 1991 года падчас першага апытання, і на працягу амаль двух год рэйтынг С. Шушкевіча ў Гомельскай вобласці вышэй, чым у Брэсцкай і Гродзенскай. Вячаслава Кебіча стабільна падтрымліваюць жыхары сельскай мясцовасці і ўпраўленчы апарат, сярод прыхільнікаў Зянона Пазьняка ў асноўным гараджане.

### СССР ПАМЁР, АЛЕ ПАМЯЦЬ АБ ІМ ЖЫВЕ

30 снежня 1992 года Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік споўнілася б 70 год. Да брыльянтавага юбілею СССР, як вядома, не дажыў. Але светлая памяць аб ім будзе жыць, пакуль ёсць на Беларусі састарэлыя грамадзяне, якія не забыліся ў гэты дзень ускласці кветкі да помніка заснавальніку савецкай дзяржавы Уладзіміру Ульянаву (Леніну) у Менску на плошчы Незалежнасці.

### КРОК НАПЕРАД

Па паведамленнях Дзяржаўнага камітэта статыстыкі Рэспублікі Беларусь пачынаючы са жніўня 1992 года ў прамысловасці Беларусі пачаўся ўздым. Гэта заўважна, бо па першай палове года спад быў на 14,2 працэнта, у верасні — на 10,8 працэнта, у кастрычніку — на 5,8 працэнта, а ў лістападзе аб'ёмы прамысловай прадукцыі перавысілі адпаведныя паказчыкі мінулага года на 1,3 працэнта.

### „ІЛЬВЯНЯТЫ" САПЕГІ

На Беларусі створана новая грамадская арганізацыя — фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі.

Увайшлі ў новую арганізацыю маладыя беларускя бізнесмены, дзеячы навукі і культуры, а таксама народныя дэпутаты.

### ШУШКЕВІЧ У КІТАІ

8 студзеня пачаўся візіт старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча ў Кітай. Падчас візіту, які працягваўся 5 дзён, падпісана некалькі дагавораў аб гаспадарчым, культурным і палітычным супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай.

### ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ

Напярэдадні Новага года ў вёску Таргуны, што ў Докшыцкім раёне, завітала здымачная група, якая зафіксавала на відэастужку не толькі мясцовыя „славутасці": клуб, цэнтральную вуліцу, але і скасабочаныя сядзібы, і іх жыхароў.

Здымаўся фільм па просьбе былога шафёра аўтабазы Вячаслава Карніловіча, які некалькі год таму паехаў пагасціваць у Злучаныя Штаты ды там і застаўся. А сум па радзіме спакойна жыць перашкаджае.

### ЯК БЕЛАРУС ПАРЫЖ ЗАВАЯВАЎ

Мянчанін Віталь Шчэрба ўдастоены „Гран-пры" Акадэміі спорту Францыі — галоўнай узнагароды, якая штогод прысуджаецца гэтай арганізацыяй лепшаму спартсмену свету.

### НЕ ПЯЕМ, ХОЦЬ ГОЛАС МАЕМ

Так і не вызначаны той варыянт гімна, які б цалкам адпавядаў па сваіх мастацкіх вартасцях высокім патрабаванням журы.

Такім чынам з 1 студзеня па 1 сакавіка 1993 года аб'яўлены конкурс на паэтычны твор, на падставе якога будзе магчымасць абвясціць конкурс на стварэнне дзяржаўнага Гімна Рэспублікі Беларусь.

Па ўсім відаць, гэта доўгая песня, канца якой не дачакацца і ў новым годзе.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ВЯЛІКАЕ СВЯТА СТОМЛЕНЫХ ДУШ

Кожны ведаў і верыў, што ніводная залатоўка, "удовін грош" не змарнуюцца. Гарады і газеты спаборнічалі, хто збярэ больш. Усё на вачах людзей, "на вязах", у тэлебачанні. Пабачылі моладзь, якая, насуперак меркаванняў некаторых, якраз не нігілістычная, не абыякавая, не цынічная, а актыўная, шчырая, міласэрная, і якая прагне грамадскай дзейнасці ад свайго імя, разам з рокавай музыкай, у якой некаторыя бачаць пэўную бесчалавечнасць, нігілізм і чорт ведае яшчэ што, на чале з "няслушнымі вартасцямі".

Галоўнае бюро "Вялікага аркестра святочнай дапамогі" ў Варшаве, "Чверць Мурашкі". Збіраюць грошы на ратунак дзецям з прыроджанымі зменамі ў працы сэрца. За адну нядзелю сабралі з цэлай Польшчы за 7 мільярдаў злотых. Людзі прыносілі грошы, заходнюю валюту, ювелірныя вырабы. Багатыя фірмы таксама не паскупіліся. Моладзь выйшла на вуліцы са скрыначкамі. Арганізаваныя і спантанныя зборы. Адна аперацыя на адкрытым сэрцы каштуе 40 мільёнаў злотых. Штогод трэба праводзіць каля 6 тысяч такіх аперацый, а грошай з бюджэту хапае толькі на тысячу. Чарга дзяцей чакае на свой дзень, калі іх хворыя сэрцы пачнуць біць нармальна. Ці спантанная сардэчнасць людзей - адзіная магчымасць скараціць гэтую чаргу і, можа быць, уратаваць яшчэ хоць адно жыццё? Ад лютага будзе дзейнічаць фонд Вялікага Аркестра, які год будзе збіраць грошы з гэтай мэтай.

Юрэк Овсяк - звычайны, нармальны, вясёлы, канкрэтны, аўтэнтычны чалавек, якому /як і яго слухачам парадыё/ зусім не мяшае тое, што ён заікаецца. Вялікая індывідуальнасць, якая змагла актывізаваць людзей, спалучыць іх жывой ідэяй. Гэта была дэманстрацыя стомленых душ, абараняючых сваю незалежнасць ў гэты цяжкі час. У час слоў пра хрысціянскую міласэрнасць і цану пачатага жыцця. Гэтыя словы не сыходзяць з вуснаў палітыкаў. А людзі нясуць свой „удовін грош", як у час, калі айчына патрабуе гармат для абароны незалежнасці. І сказалі: "Мы - незалежныя! Мы - разам! Ратуем не толькі хворыя сэрцы нашых дзяцей!"

**МІРА ЛУКША**

P.S. Грошы можна высылаць на рахунак /без паштовых аплат/:

Fundusz Pomocy
Dzieciom z Wadami Serca,
BIG SA Warszawa,
Ćwierć Mrówki,
429999-9579-131-10

# АПУСЦЕЎ БАЗАР

Па-рознаму ў нас людзі ставіліся да "турыстаў" з-за ўсходняй мяжы, якія апошнім часам запаўнялі, разам са сваімі велізарнымі і надзвычай цяжкімі торбамі, цягнікі, вакзалы і перш-наперш базары. Адны наракалі на бруд і цеснату ў публічных месцах, іншыя крытыкавалі якасць прывезенага тавару, яшчэ іншыя - гэтых было найбольш - карысталіся проста нагодай, каб танней купіць патрэбныя ім рэчы.

Госці з былога СССР сталі пастаянным элементам польскага краявіду. Беластоцкага асабліва.

Аднак перад Новым годам нешта пачало мяняцца - раптам стала выразна менш прыезджых і, тым самым, тавараў, якія яны привозілі і за паўдарма /на нашы ўмовы/ тут прадавалі. Апусцеў беластоцкі вакзал. Былі дні, калі базары ў Бельску і Гайнаўцы станавіліся падобнымі на плошчы, падрыхтаваныя для вайсковага параду - чыстыя, падмеценыя і... пустыя.

Пасля праваслаўных Каляд гэтыя пляцы як бы крыху ажылі, але, параўнаўча, у невялікай ступені. Не было вялікага выбару тавараў. От, нейкія чаравікі, крыху дзіцячай вопраткі, запалкі, кілішкі. Яшчэ мяса, у кансервах і так, нейкія вяндліны. Але на мяса пакупнікоў не было - кожны ж падрыхтаваў сабе яго больш ці менш на святы.

Здаецца, цяпер наогул не пакупкі хвалююць у нас людзей, а хутчэй пытанне, ці ўвогуле будуць прыязджаць сюды грамадзяне СНД. Чаму не паяўляліся яны амаль зусім падчас Каляд і Новага года, ці з увагі на святы, ці на мароз, ці яшчэ на іншую прычыну? Хадзілі ўжо нават пагаласкі пра закрыццё мяжы. Супраць гэтага была б, пэўна, рашучая большасць грамадства, бо сем'і прывыклі ўжо планаваць свой бюджэт з улікам "рускіх" гандляроў.

**ак**

# ГУТАРКА Ў ДАРОЗЕ

— Як табе жывецца, Ліля? — пытае старэйшая жанчына ў купэ вагона маладзейшую, якая едзе з дзіцём.

— Пакуль добра, але хутка кончыцца. Была ў сакратарыяце, дзе раней працавала, і там сказалі, што мяне не прымуць, бо на маё месца прынялі іншую. Цяпер шкадую, што пайшла на выхаваўчы водпуск. Год „куранёўкі", і што далей?

— Ты ж магістр... Табе будзе лягчэй знайсці працу.

— Цяпер на гэта ніхто не зважае.

— У цябе ёсць яшчэ надзея, а ў мяне ўжо яе няма. Мы з мужам абое страцілі „куранёўку". Як вывучыць сына? За інтэрнат трэба плаціць 800 тысяч злотых. Даход з гаспадаркі слабы. Не хопіць грошай на ўсё. Мая мама гаварыла, што мне дапаможа, але адкуль возьме цяпер грошы? Бацька меў вялікую пенсію, але памёр, а ў мамы пенсія малая. Сама ледзь пражыве.

— Чаго ж ты перайма ешся? — спыталася трэцяя жанчына. — Ты ж сама гаварыла, што будзе добра, а беспрацоўе ў капіталізме павінна быць. Гаварыла калісь, што апошнюю кашулю прадасі, а дзяцей вучыць і лячыць будзеш.

— А хто ведаў, што так будзе?!

— Ты ж мяне дурной называла, калі я табе гаварыла, што на хлеб табе не хопіць. А ты смяялася! Чаму цяпер плачаш?

— Не адна я. Многія людзі расчараваліся. Цяпер усе не могуць зразумець, як так можна. Не дадуць чалавеку працы, толькі цэлымі месяцамі дыскутуюць аб абортах. Людзі ўжо і надзеі не маюць.

**АЎРОРА**

# СЛІЗГАТА

Працяг са стар. 1

развітаўся з усімі, жадаючы "вясёлых святаў". На дарогу спатрэбілася тры разы больш звычайнага часу. Тут я канчаткова зразумеў, што ўсе мае планы на калядны вечар лопаюць. Выбіраліся мы з жонкаю і сынам паехаць на вёску, да маіх бацькоў, але як тут паедзеш, калі на нагах ледзь-ледзь можна ўтрымацца, а машыны на вуліцы ездзяць ва ўсе бакі, толькі неабавязкова ўперад. Адзінай маёй марай стала дабрацца як-небудзь дахаты, у Бельск.

І сапраўды, у Бельск я даехаў, цягніком. Праўда, чатыры гадзіны пазней, чымсьці абяцаў жонцы, але лічу, што мне і так пашэнціла. Ужо ў дарозе злосць мяне пакінула і пачаў я спакайней глядзець на тое, што выраблялася навокал. Нямала было ў гэтым камічных элементаў: колькі натужвацца мусілі людзі, каб дайсці да раней вызначанай мэты, часамі дапамагаў толькі цуд; раз-пораз відаць было задзертыя ўгару ногі або чуваць стогн падаючага цела. Як у фільмах Чапліна.

Усе, якія адзначалі Каляды паводле строга стылю і задумалі выезд на святы /найчасцей да бацькоў/ наспех мянялі планы. Як-небудзь дакоўзваліся яны ў найбліжэйшую краму, куплялі марынаваныя селядцы, у слоіках, і сустракалі Хрыстовае Нараджэнне ў сваіх гарадскіх кватэрах.

**М.В.**

# НЕ ПАШАНЦАВАЛА З ПРАЦАДАЎЦАМ

Працяг са стар. 1

не заўсёды ёй хапала. Аднак не ў тым была справа. Спадарыня Давідзюк пачала сумнявацца, ці дамова аб працы, якую яна падпісала з аентам, з'яўляецца дамовай сапраўднай, згоднай з кодэксам працы. Іначай кажучы, ці гэтую працу залічаць ёй потым да стажу працы пры налічанні пенсіі. Гэтыя свае сумненні яна выказала ўголас. Аент Тадэуш П. зарэагаваў даволі нервова. Заставалася яшчэ адна няясная справа: чаму яна, працуючы паводле дамовы на поўным штаце, атрымлівае адно 600 тысяч, калі існуе нешта такое як мінімальная гарантаваная плата? Закончылася як закончылася: яна даведалася, што ўжо не працуе, і do widzenia.

Але спадарыня Аліна аказалася асобай бойкай і энергічнай. Высвятляць сваю справу пайшла ў інспектарат працы. Усё паказвае на тое, што для Тадэуша П. справа на гэтым не закончыцца.

Я гаварыў з адным членам Управы каапературы „Piaski" і даведаўся, што Тадэўш П. мае з імі падпісаную дамову як гаспадарчы суб'ект наконт утрымання чысціні і парадку ў вышэй згаданым павільёне і атрымоўвае на гэта акрэсленую суму грошай. Як ён наладжвае адносіны з працаўнікамі — гэтая справа каператыва не датычыць.

Сам жа Тадэуш П. сказаў мне, што Аліну Давідзюк звольніў, бо не спраўлялася са сваімі абавязкамі. Наконт таго, ці дасць ёй фармальнае звальненне на паперы і пасведчанне аб працы за адзін месяц, ён ясна не выказаўся.

Выглядае на тое, што не ўсё тут яшчэ дагаворанае і, як кажуць, юрыдычна зразумелае.

**ЯН МАКСІМЮК**

## ВІТАЕМ БРАТОЎ ЯЦВЯГАЎ

У беларускай прэсе штораз часцей пішацца пра рух "яцвягаў" па Палессі і яго лідэра Міколу Шэляговіча. Паводле М. Шэляговіча паміж беларускімі і украінскімі дыялектамі існуе шырокая зона яцвяжскай мовы, якую ён называе "валодай" і на якой размаўляюць нашчадкі яцвягаў, пражываючых на поўдні Беларусі, поўначы Украіны і ў Польшчы на поўдзень ад Нарвы.

На Беларусі Шэляговіча ўспрымаюць настолькі сур'ёзна, што нават некаторыя журналісты раздумваюць пра магчымасць стварэння яцвяжскай дзяржаўнасці. Зразумела, што мэтай гэтага ёсць і стварэнне такой дзяржавы.

Нічога пакуль што не вядома наконт планаў Шэляговіча адносна Беласточчыны, асабліва на поўдзень ад ракі Нарвы. Вядома толькі, што жыхары гэтай тэрыторыі размаўляюць "валодай" - сапраўднай яцвяжскай мовай.

**МІКАЛАЙ БУСЛОВІЧ**

# У НАРАЎЧАНСКАЙ ГМІНЕ

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### Больш лепшых дарог

Лепшая сувязь — гэта таксама добрыя, роўныя як стол, дарогі. У Нараўчанскай гміне ёсць і вельмі добрыя дарогі, і прызабытыя.

У 1991 і 1992 гадах паклалі асфальтавае палатно на звыш двухкіламетровым адрэзку шашы з Гушчэвіны ў Альхоўку і на паўтаракіламетровай дарозе з Нараўкі ў Янова. Апрача таго пабудавалі дзве асфальтавыя вуліцы ў Семяноўцы і закончылі пабудову грэвейкі ў Новай Луцэ.

Варта дадаць, што ў вышэйзгаданай гміне амаль на ўсіх аўтобусных прыпынках ПКС ёсць прыгожыя драўляныя пачакальні. Будаваць іх пачалі недзе ў 1986 годзе і штогод „раслі яны як грыбы пасля дажджу". У грамадскім пачыне і пры фінансавай і матэрыяльнай дапамозе гмінных улад, у тым перш-наперш войта. Толькі ў пасёлку Нараўка пастаўілі некалькі так званых „дашкаў".

Да прызабытых належыць, між іншым, адрэзак дарогі ад шашы Новае Ляўкова — Бандары ў напрамку Навін. Шкада, што ў мінулым годзе не выраўналі жвіровай дарогі з Падляўкова ў Крыніцу цераз Бярнадскі Мост. Зараз на ёй поўна ўхабін, якія неабходна засыпаць жвірам або пяском.

### Вада з крана

У 1991 годзе ваду з крана мелі жыхары адзінаццаці вёсак, у тым ліку перш за ўсё распаложаных непадалёк пасёлка Нараўка і каля Семяноўскага вадасховішча. У мінулым годзе крыштальную ваду з крана атрымалі вёскі: Старое Ляўкова, Новае Ляўкова (тут нават у дамах на калёніі, у прысёлку) і Падляўкова. Закончылі пабудову водаправода ў Гушчэвіну. У бягучым годзе пабудуюць яго ў Ахрымах, Плянце і Тарнопалі. У маі 1992 года ў Нараўцы пачала дзейнічаць ачышчальня сцёкаў. Першая ў гміне. У спомненым пасёлку пабудавалі больш кіламетра каналізацыі.

### Новы гмінны асяродак здароўя і...

27 лістапада мінулага года ў Нараўцы здадзена ў эксплуатацыю прыгожы прасторны Гмінны асяродак здароўя. У ім — пяць лекарскіх кабінетаў. Зараз будуюць яшчэ шэсць жылых кватэр для медычнага персаналу.

Варта дадаць, што ў гміне другі асяродак здароўя існуе ў Старым Ляўкове — у новым будынку. Раней знаходзіўся ён у прыватных памяшканнях.

### ... Гмінны асяродак культуры

У Нараўцы заканчваецца пабудова Гміннага асяродка культуры з кіназалай. Будзе ў ім танцавальная зала, кавярня, фоталабараторыя для фотааматараў, майстэрня для мадэлістаў (судны, самалёты). У гміне існуе дзесяць вясковых святліцаў, у тым ліку ў Гушчэвіне, Міхнаўцы, Заблочыне, Тарнопалі і Баб'яй-Гары. Актыўна займаецца культурнай дзейнасцю калектыў у Старым Ляўкове.

### Дапамога войта школам

Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч на колькі змог дапамагаў школам, хаця яны тут яшчэ не самаўрадавыя. У мінулым годзе знайшоў фінансавыя сродкі на пакупку вугалю для Падставовай школы ў Семяноўцы. Гэта вялікі мураваны будынак і каб зімой было ў ім цёпла, трэба многа апалу. Войт намерваецца сфінансаваць таксама атынкоўку фасада (элевацыі) дабудаванай часткі школьнага будынка, у якой знаходзіцца, між іншым, сталовая.

У Староляўкоўскай васьмігодцы — апошнім часам значна разбудаванай, дзякуючы дапамозе гмінных улад, абсталёўваюць прыгожую панель (баазэрыю).

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# НЯМА ХЛЕБА - НЯМА ПАТРЫЁТАЎ

Калісьці не пераставаў я здзіўляцца тым, з якою лёгкасцю Рымская імперыя лацінізавала ўсіх, хто знайшоўся - хаця б часова - у яе межах. А была ж яна дзяржаваю фактычна аднаго горада, менавіта Рыма з ваколіцаю /не большаю пачаткова за ваяводства/. Не давала рады, аднак, асіміляваць арэал грэцкай культуры, значна старажытнейшай, а папярэдне карыстаючыся якою якраз самі рымляне стварылі ўласную.

Аналагічнай да Рымскай - у тым сэнсе - убачылася мне Савецкая: русіфікавала ды каланізавала безліч плямёнаў. Але, паказала сябе бяссільнай у духоўнай канфрантацыі з антычнымі Арменіяй і Грузіяй, і з раней за Масковію еўрапеізаванай Прыбалтыкай /колішнія Інфлянты/.

Згаданыя выключэнні ад усеагульнай падатлівасці накінутаму патэнцыялу, так сказаць, пальцам тыцкаюць у галоўную з галоўных прычынаў з’явы. Магчыма вызначыць яе адзінюткім слоўцам "хлебнасць", ды ягоная метафарычнасць патрабуе тлумачэнняў. Знаўцы агульнай гісторыі час-часам небеспадстаўна іранізуюць, што рымскае ўладыцтва загубіў... дабрабыт у ім. Галота з басотаю з тадышняга, паўночна-задунайскага, варварскага свету перлася нажыцца ў цывілізаваных правінцыях /славяне заселі ў Паноніі, Фракіі, Македоніі; рыжыя германе бушавалі ў Галіі, Іберыі, Італіі; са стэпаў прыгналіся гуны з Атылаю/. Быў разбой, але і была потым думка пераняць імперыю. Так.

Праіснавала яшчэ за тысячу гадоў у якасці Рымскай імперыі Нямецкага народу /звярніце ўвагу на асаблівасць паслейшага афіцыйнага назову/. За права ўбіцца ў яе склад - каб нароўні з немцамі - змагаўся заядлы Баляслаў Хробры /каранаваўся каралём Польшчы ўжо перад смерцю, канчальна страціўшы надзею стацца рымлянінам/. Не дайшло да пераназвання ў - Рымскую імперыю Нямецкага і Славянскага народаў? Быў жа момант, у які пад ласкаю Хробрага апынулася амаль уся гістарычная Славяншчына, узяўшы пад пратэктарат нават Кіеў. Германія не дапусціла трэцяга да прэстыжнай кампаніі.

Ці не відаць падабенстваў гэтага і ў нашы дні? Нямеччына не мае адбою ад галадранцаў з таго ж усходу; сярод актуальнага мільёна палякаў у ёй практычна аніхто проста не хоча вучыць сваіх дзяцей роднай мове, хоць урад гарантуе настаўнікаў. У Амерыцы толькі старая, укаранелая там, эміграцыя сяк-так пачуваецца да польскасці. А ў самой Польшчы на кожных чатырох маладых - трох ахвотна драпанула б адсюль /вядома, куды/.

У саветаў, як у Азіі, невытлумачальная сітуацыя: плачуць па Маскоўскай імперыі, нягледзячы на зафундаваны ёю голад, расстрэлы, быдлячы страх. Не ведаюць, бедныя, што цуд уваскрашэння адбыўся ўсяго адзін раз, 1959 гадоў таму назад... І то ў Палесціне. Раб - тады ён раб, калі палюбіць рабства; супроць выступіў сын Бога.

Вялікая гісторыя мініяцюрызуецца ў чалавечай адзінцы. Праз увесь пасляваенны перыяд, як памятаю, у рэйсавым аўтобусе ў Крынкі панаваў тэрор польскамоўя. Далёка не таму, што пераважаюць тут католікі. Сёння ж, чую, дэмакратыя раптам: хто па-польску, а хто ўжо і па-беларуску на ўсё горла. Цуд не здарыўся. Дык што? Прапала "хлебнасць" польскага слова. Можаш выпендравацца з ім, вось, хоць трэсні, а ўсё роўна выкінуць цябе з работы, калі ты лішні ў фірме. У імперыю было іначай: працавалі дурні, а белы хлеб елі патрыёты.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**




# БЛІЗАРУКАСЦЬ

Мяне трывожыць, а нават насмяшае блізарукасць некаторых нашых адукаваных і прасякнутых патрыятызмам беларусаў, якія сур’ёзна аднясліся да жарту В. Петручука "Новаберазоўцам - ура!" /"Ніва", 6.12.1992/. Абураюцца яны на аўтара за тое, што пахваліў ён жыхароў Новаберазова за помнік Ю. Пілсудскаму, які так любіў і шанаваў беларусаў, даў ім навуку, асвету і лячэнне /хаця, напэўна, меў нас у большай павазе, чым Сталін/.

Здаецца мне, што нават дзіця ў змозе рассакрэціць артукул В. Петручука, які ў дурнях пакінуў жыхароў гэтай вёскі. Жыхары Новаберазова, Старога Беразова і іншых навакольных вёсак ганарыліся пашанай камуністаў, а і за санацыі быў тут іхні прапагандысцкі цэнтр. Аж раптам, вецер павеяў з другога боку і вось што натварылася. Значыць, камунізм не надта глыбока тут укараніўся. Не памятаю, у якім гэта было Беразове, Новым ці Старым, але тут менавіта адбыўся разгром грамадоўцаў і беларускіх паслоў. Апранутыя па-цывільнаму паліцыянты завялі свой парадак гэтага сходу. Разагналі ўсіх, кожнага адлупцавалі, паслам не дапамог нават іхні імунітэт. Былі на гэтым сходзе і людзі з Дубіч-Царкоўных, а ў іхнім ліку Тарас Тамашук, які зайшоў туды босы. Яго ды іншых пагналі камяністаю шашою ў Бельск, на "споведзь". Там, у камісарыяце, далажылі яшчэ бізуноў. Ад гэтай хады, гаварыў пазней Тарас, пакалечыў ён сабе ногі да касцей. А хіба асвяціла санацыя наш народ? Думаю, што бальшавізм зрабіў гэта лепей, калі ў часе выбараў усе беларусы аддалі свае галасы не на беларусаў, а на Цімашэвіча - паляка і камуніста. Якія веды здабылі нашы людзі перад вайною? Разносіўшы лісты, большменш ведаю - калі патрэбны подпіс, то тыя, што пакančалі за санацыі чатыры класы, ледзь-ледзь могуць распісацца. А вось тыя, што за праклятага цара закончылі двухкласнае народнае вучылішча, былі па вёсках настаўнікамі, займалі пасады, былі начальнікамі поштаў, бухгалтарамі. За санацыі толькі адзін вучань ад нас закончыў сем класаў.

Якое за санацыі было лячэнне? Быў у Дубічах адзін чалавек - Васілюшка, які захварэў на сухоты. Лечыцца паехаў у Бельск. Лекар, напшрыцаваўшыся нечым, каб хвароба на яго не пералезла, пачаў аглядаць Васілюшку. Калі зглядзіў, што справа ў сухотах, давай крычаць: "Вон, вон, прэч мі з тэго мешканя!" І прагнаў, як сабаку. Васілюшка незадоўга памёр. У Дубічах, дый не толькі ў іх, лечыў людзей мой сваяк Бенядыкт, які ў час першай сусветнай вайны закончыў медыцынскі ваенны курс. Пры цары некаторыя нашы людзі здабылі сярэднюю адукацыю, але за санацыі дарога на пасады была ім зачынена. Такая праўда. Таму артыкул В. Петручука лічу як жарт у адрас жыхароў Новаберазова, а не як пахвалу санацыі.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" - УЖО ЗНАЁМЫЯ ПРАМОВЫ...

У днях 19 і 20 снежня мінулага года ў Менску адбыўся І Сход беларусаў блізкага замежжа. Арганізавала яго Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Пры чым тэрмін "блізкае" не трэба разглядаць у катэгорыях геаграфічнай адлегласці, толькі хутчэй як палітычна-культурнае паняцце. Арганізатары блізкім замежжам палічылі Беласточчыну і ўвесь арэал былога СССР, хаця, скажам, Якуція ці Далёкі Усход не бліжэй ад Беларусі, чымсьці ЗША, не гаворачы ўжо пра заходнееўрапейскія краіны.

Сходу ў Менску прыдавалася вялікае значэнне. Праходзіў ён у Доме літаратара. На галоўнай вуліцы сталіцы - праспекце Скарыны - віселі велізарныя транспаранты: "Вітаем удзельнікаў І Сходу беларусаў блізкага замежжа". Бляску імпрэзе прыдавала прысутнасць афіцыйных асоб рэспублікі: міністраў - замежных спраў Пятра Краўчанкі, абароны Паўла Казлоўскага ды інфармацыі Анатоля Бутэвіча, намесніка прэм’ер-міністра Міхала Дземчука і, урэшце, старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча. З прамовамі выступілі таксама два вялікія аўтарытэты на Беларусі: народны пісьменнік Васіль Быкаў /ён жа і ганаровы прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына"/ і лідэр Беларускага народнага фронту і парламенцкай апазіцыі Зянон Пазьняк.

На Сход прыбылі беларусы амаль з усіх, нават самых экзатычных, закуткаў былой савецкай імперыі: ад прыбалтыйскіх дзяржаў, праз Маскву і Пецярбург па Сярэднюю Азію, Сібір і Далёкі Усход. Гэта быў добры форум, каб паказацца, адзначыць сваю прысутнасць, расказаць пра складанасці і клопаты жыцця здалёк ад радзімы.

Сярод гасцей самай людная і разнавідная была, безумоўна, дэлегацыя з Беласточчыны. У Менску сваю прысутнасць адзначылі хіба ўсе палітычныя, грамадскія і культурныя плыні нашай дыяспары /вельмі папулярнае апошнім часам на Беларусі гэтае слова/: ад "Балагана" Янкі Морданя і Звязу беларускай моладзі да БГКТ, БДА і літаратараў. Былі і ліцэісты, і іхнія настаўнікі, студэнты і палітыкі, былі і заслужаныя пенсіянеры. Думаю, што ўсе добра сябе там адчувалі. Можна сказаць, нарэшце знайшлі мы добрае месца, каб спаткацца і пагаварыць як беларус з Беласточчыны з беластоцкім беларусам.

Не забракла нашых і сярод прамоўцаў. Я адзначу тут толькі двух старшыняў: Галоўнага праўлення БГКТ Аляксандра Баршчэўскага і Галоўнай рады БДА Алега Латышонка. А. Баршчэўскі заклікаў, каб забыцца на палітыку, на падзелы ў грамадстве і ўсю ўвагу засярodзіць на культурнай дзейнасці - гэта спосаб на абуджэнне свядомасці, на адраджэнне нацыі. Ад Беларусі Беласточчына, паводле яго, чакае падвойнай дапамогі: маральнай - калі Беларусь стане Беларуссю, і матэрыяльнай - на развіццё мастацкай самадзейнасці, на Беларускі музей.

Алег Латышонак, зусім наадварот, гаварыў якраз пра палітыку. А дакладней, даў рэпліку на выступленне міністра замежных спраў РБ Пятра Краўчанкі, у якім той абяцаў дапамагчы ставіць на Беласточчыне помнікі ахвярам тэрору ўзброенага польскага падполля ў першыя пасляваенныя гады. Гэта, сказаў А. Латышонак, палітычная правакацыя, якая акрамя гора, нічога не дасць. Не таго мы чакаем ад Беларусі, каб выкарыстоўвала яна нас толькі як прадмет у палітычнай гульні.

Міністр Краўчанка аднак, здаецца, выступленне Латышонка і не чуў - сказаў сваё, забраўся і пайшоў. Гэта, памойму, добра паказвае характар усяго Сходу. Напэўна расчараваўся той, хто разлічваў на нейкую развязку сваіх праблем. З’ехацца, пагаварыць, адвесці душу, гэта так. Але потым усе раз’едуцца, а жыццё вяртаецца ў сваё натуральнае рэчышча.

Я прысутнічаў ва Устаноўчай канферэнцыі ЗБС "Бацькаўшчына" ў верасні 1990 г. і на гадавым справаздачым сходзе ў снежні 1991 г., таму лічу, што маю сякое-такое ўяўленне пра гэтыя мерапрыемствы. Людзі на ўсіх трох былі не толькі што такія самыя, але часта і тыя самыя. Апрача таго, што кожны спадзяваўся на нешта сваё тут, то амаль ва ўсіх прамовах паяўляўся адзін матыў. Незалежна ад таго, што прысутныя ў зале прытрымліваюцца падобных поглядаў - незалежнасць Беларусі, адраджэнне мовы, свядомасці, - то ўсе ўсіх агітуюць, пераконваюць аўдыторыю ў слушнасці выбранай дарогі. Складваецца такое ўражанне, што чуем адну і тую самую прамову дзесяткі разоў. Пад вечар у галаве ўжо адна каламуць. Чакаеш тады ўжо толькі банкету, дзе /як і ў кулуарах/ можна спакойна і ад душы пагаварыць.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# СВЯТЫ САВА,
## ПЕРШЫ АРХІЕПІСКАП І НАСТАЎНІК СЕРБСКІ



Кожны хрысціянскі народ мае сваіх святых, якія знаходзяцца перад Божым прастолам. Аднак рэдка здараецца, каб нейкі народ так моцна звязаў свае духовае багацце са сваім святым, як сербскі народ са св. Савай.

Сербская дзяржава існавала здаўна, а сербы на сотні гадоў да св. Савы былі хрысціянамі. Аднак народ быў недастаткова духова развіты, а дзяржава была слабая і разбітая. Толькі тады, калі ў народзе з'явіўся св. Сава, дзяржава змагла аб'яднацца і стаць моцнай, а вера так расцвіла і замацавалася ў сэрцах сербаў, што і пяцьсот гадоў турэцкага зняволення не змаглі знішчыць сербскі народ, які быў неразлучна звязаны з праваслаўем.

Св. Сава нарадзіўся ў 1169 годзе ў княжацкай сям'і. Яго бацькам быў вялікі жупан /князь/ Стэфан Нямане, а маткай - дачка баснійскага князя Анна. Дзіця ахрысцілі імем Растко. Пятнаццацігадовы Растко атрымаў ад бацькі ў сваё распараджэнне адну з правінцый, але праз два гады бацька вярнуў яго на свой двор і намерваўся ажаніць сына з дачкой суседняга князя. Растко ад нейкага часу раздумваў аб іншым жыцці, аб жыцці прысвечаным Богу. На бацькоўскім двары сустрэў ён сербскіх і рускіх манахаў з гары Афон. Узначальваў іх рускі стары манах, з якім княжыч хутка знайшоў супольную мову. Адну ноч Растко правёў на гутарцы са старым манахам і тады канчаткова вырашыў пакінуць свецкае жыццё і пастрыгчыся ў манахі. Спадзеючыся, што бацькі не адобраць яго намераў, ён патаемна выходзіць з дому і падаецца на гару Афон. Там ён становіцца паслушнікам у рускім манастыры св. Панцеляймона, заснаваным у палове XI ст. князем Яраславам Мудрым, прымае малы пострыг і неўзабаве пераходзіць у грэчаскі манастыр Ватапед, дзе прымае вялікі пострыг і імя Сава. Было яму тады васемнаццаць гадоў. У гэтым манастыры прабывае ён да трыццатага года жыцця, вучыцца ў ім грэчаскай мовы, вывучае каноны, уставы, абычаі Праваслаўнай царквы. У той час бацька св. Савы пагаджаецца з воляй сына і пастаўляе на Афон матэрыяльныя сродкі, за якія быў пабудаваны сербскі манастыр Хіляндар. Неўзабаве і бацькі стануць манахамі. Бацька сваю ўладу перадае сыну Стэфану, прымае пострыг і імя Сімяон, а маці прымае імя Анастасія.

Праз нейкі час бацька прыбывае да свайго сына на Афон, а адсюль падаецца ў Канстанцінопаль, дзе ў патрыярха Іаана атрымоўвае пацвярджэнне незалежнасці і самастойнасці манастыра Хіляндар, які з'яўляецца адным з дваццаці галоўных манастыроў Святой Гары Афон.

Пасля вяртання на Афон Сімяон паміраe, а яго цела пачынае выдзяляць пахучае міра, а пры рацы з мошчамі здзяйсняюцца цуды. Св. Сава вырашае перанесці святыя мошчы Сімяона ў Сербію, у манастыр Студзеніца. Праз нейкі час св. Сава быў настаяцелем гэтага манастыра, але неўзабаве разам са сваім братам жупанам Стэфанам будуюць манастыр Жыча, які ў будучым стане духоўным цэнтрам сербаў.

У 1204 годзе, падчас IV крыжовага паходу, якога мэтай стала не барацьба з няверными туркамі, а толькі змаганне з Візантыяй, быў заняты Канстанцінопаль і ўстаноўлена лацінская імперыя, якая датрывала да 1261 года. Тады менавіта лацінскі імператар Бальдвін з Фландрыі разам з вянгерскім каралём Андрэем рашылі зняволіць праваслаўную Сербію. У страху перад паражэннем жупан Стэфан абяцае прыняць каралеўскую карону з рук рымскага папы. Святы Сава не хоча ўдзельнічаць у грахах брата супраць сапраўднай веры і свайго народа, і вяртаецца на Афон, дзе ў самоце моліцца за сербскі народ. Пасля кароткага прабывання на Афоне св. Сава пачынае дзейнічаць у абарону Праваслаўя і свайго народа. У 1219 годзе падаецца ён у Ніццу, дзе знаходзіліся канстанцінопальскія патрыярх і імператар. Там прадстаўляе ім сітуацыю Сербіі і атрымоўвае дабро на стварэнне незалежнай Сербскай царквы пад умовай, што стане ён першым яе архіэрэем. Усё гэта збываецца ў тым жа годзе.

Неўзабаве як архіепіскап прыбывае ён на сваю бацькаўшчыну. У духоўным цэнтры Сербіі, у манастыры Жыча, вянчае ён каралеўскай каронай, прывезенай ад візантыйскага імператара, жупана Стэфана, які становіцца першым сербскім царом. На другі дзень св. Сава збірае для споведзі і прычасця ўсіх сербскіх князёў, вяльможаў, баяраў - усіх, хто кіраваў Сербіяй. У час Літургіі, пасля Евангелля, св. Сава выходзіць з алтара і чытае Сімвал Веры, які паўтараюць усе, з караля пачынаючы, а затым усіх прычашчае. У такі спосаб з сербскага народа змывае ён усялякі налёт няпраўлаўя. З гэтага часу на працягу чатырнаццаці гадоў працуе ён на карысць Праваслаўя і свайго народа, аб'язджае мястэчкі і вёскі, засноўвае новыя епіскапскія кафедры, манастыры, цэрквы, высвячае свяшчэннікаў.

Св. Сава пераклаў і апрацаваў з грэчаскай мовы для патрэб сербскага і іншых славянскіх народаў звод кананічных правоў, т. зв. "Намаканон". Гэтая кніга канонаў - "Кромчая книга" - пасля нязначных дапаўненняў абавязвае ў Рускай царкве да сённяшняга дня.

У 1235 г. св. Сава перадае сваю архіепіскапскую кафедру свайму вучню Арсенію, а сам падаецца ў Святую Зямлю, дзе наведвае святыя месцы Палесціны, Сірыі, Егіпта і Малой Азіі. Вяртаючыся назад затрымаўся ён з-за хваробы ў сталіцы Балгарыі - Тырнове. Гасподзь даў яму знак блізкага канца яго нага жыцця. Св. Сава напісаў тут пасланні каралю Уладзіславу і архіепіскапу Арсенію і, пасля прычасця, у дзень Багаяўлення адышоў к Госпаду. Было гэта 14 студзеня 1237 года. Мошчы св. Савы пасля гадавога знаходжання ў Балгарыі былі ўрачыста перанесены ў спецыяльна пабудаваны Міляшэўскі манастыр на тэрыторыі сённяшняй Герцагавіны. Падчас турэцкага панавання ў 1595 г. святыя мошчы па загаду візіра Сінана былі перанесены ў Бялград і спалены ў квартале Врачар.

Памяць св. Савы Сербская царква ўшаноўвае 14 студзеня. У нашай Царкве, а таксама і ў Рускай царкве, у сувязі з тым, што 14 студзеня - гэта свята Багаяўлення, Яго памяць ушаноўваем 12 студзеня /усе даты падаюцца паводле старога стылю/.

25 студзеня /12.01. ст.ст./ - гэта Дзень Ангела архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы, якога заступнікам з'яўляецца св. Сава, і які ў Сербіі прыняў манашаскі пострыг.

**С.Н.**

## У БЕЛАВЕЖСКІХ БАПТЫСТАЎ

Прысутнасць баптыстаў у Белавежы пачынаецца з паловы дваццатых гадоў нашага стагоддзя. Раней сюды прыязджалі толькі місіянеры. Першымі баптыстамі ў Белавежскай пушчы аказаліся былыя салдаты з арміі ген. Язэпа Булак-Балаховіча, якія ў той час працавалі ў лесе. Іх прозвішчы: Савелій Басакін, Цімафей Кошкін, Іларыён Сыравой. У Борках (цяпер пасёлак гэты ў межах Беларусі) жыў настаўнік А. Плёска, таксама баптыст.

Неўзабаве ў Бучаўлянцы наладзіўся невялікі збор. Зацікаўленыя белавежцы хадзілі туды пешшу. З Белавежы першым прыняў хрышчэнне 20 ліпеня 1924 г. Ігнат Вітэр. Разам з ім ахрысцілася некалькі іншых асоб. У 1926 годзе далучылі да іх Дронь і Анастасій Купрыянаў.

Першае хрышчэнне ў Белавежы адбылося 20 чэрвеня 1926 г. Тады заснаваўся і збор. Дом малітвы збудавалі ў 1927 г. Ён служыць белавежскім баптыстам і сёння. На чале збора стаяў тады Станкевіч, цясляр па прафесіі.

Да выбуху ІІ сусветнай вайны ў белавежскім зборы было ахрышчана 111 чалавек, а пад яго апекай знаходзілася 450 вернікаў. Падчас вайны шмат баптыстаў выехала, асталося ўсяго звыш трыццаці чалавек.

У васьмідзесятых гадах збор у Белавежы налічваў 12 вернікаў, зараз іх толькі 10. На жаль, двое вернікаў памерла ў мінулым годзе. Прапаведнікам цяпер з'яўляецца Мечыслаў Пятроўскі.

Зараз у Белавежы будуецца будынак, прызначаны на памяшканне для прапаведніка. Ён знаходзіцца побач малітоўнага дома, у завулку Руднікоў (па-мясцоваму — Трэцяя гулачка).

Цяжкасцей з будаваннем ёсць шмат. Пачалося з таго, што нельга было дабіцца згоды на змену спосабу выкарыстоўвання грунту, на якім прадбачвалася пабудова. У снежні 1988 г. М. Пятроўскі, маючы сабраныя грошы на прапаведніцкі дом, выступіў з прыватнай прапановай. Натарыяльнага перапісання на сябе пляца велічынёй у 2.212 кв. метраў дачакаўся ажно ў 1990 г. Можна было ўрэшце пачаць будаваць, хаця сабраныя грошы патрацілі праз гэты час сваю вартасць. Нечаканa паявіліся новыя праблемы, якія таксама адмоўна паўплывалі на ход будовы.

Дзякуючы адной толькі настойлівасці М. Пятроўскага будова пачалася і працягваецца. І ўсё паказвае на тое, што праз год-два яна поўнасцю закончыцца. Зараз яна знаходзіцца на этапе т. зв. „сырога стану", які будзе завершаны вясною г.г.

Вартасць сабраных дагэтуль сродкаў і ўкладзенай працы дасягае 180 млн. зл. Асноўная частка сабраных грошай запрацавана самім прапаведнікам, які дзеля гэтай мэты водзіць па пушчы замежных турыстаў. Ён не ўхіляецца таксама і ад фізічнай працы (напр., за памаляванне адміністрацыйнага будынка ў Варшаве зарабіў 30 млн. зл.). Дапамагае фінансава крыху і збор. На будове працуюць члены збору, наёмныя працаўнікі і, вядома, сам прапаведнік.

**ПЁТР БАЙКО**

*Фота Мечыслава Пятроўскага*



*Малітоўны дом белавежскіх баптыстаў /злева/. Побач яго вырастае дом для прапаведніка.*




### БІБЛІЯГРАФІЯ ПРАЦ ІНЖ. Б. РУДКОЎСКАГА

*(пачатак у 42, 46, і 48 н-рах за 1992 год)*

Топографическая документация церкви в Райске, 14-17.06.1988 г. *Царкоўны архіў парафіі Райск*, машынапіс, сс.4

Топографическая документация церкви в Пасынках, 28.06.1988 г. *Царкоўны архіў парафіі Пасынкі*, машынапіс.

Гацькі і наваколле. Тапаграфія дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі. *Ніва*, 3.07.1988 г., н-р 27, рыс., карта.

Расліннасць адрэзка Белай у Бельску. *Ніва*, 2.10.1988 г., н-р 40, рыс.

Праневічы і наваколле. (Тапаграфія дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі). *Ніва*, 4.12.1988 г., н-р 49, рыс. карта.

Зігзападобная змяя. *Ніва*, 26.03.1989 г., н-р 13, рыс.

Геаграфія ваколіц Відава, *Ніва*, 2.04.1989 г., н-р 14, карта.

Ваколіца вёскі Гацькі. *Ніва*, 7.05.1989 г., н-р 19, рыс., карта.

Наваколле Грыневіч. *Ніва*, 14.05.1989 г., н-р 20, рыс., карта.

Топография православной церкви села Стрыки, осень 1988 г. *Царкоўны архіў парафіі Аўгустова*, машынапіс.

Чэрнякова гара. *Ніва*, 28.05.1989 г., н-р 22, рыс., план.

Гранитные памятники на кладбище в Верстоку, 11.09.1989 г. *Царкоўны архіў парафіі Вярсток*, машынапіс.

Топография территории ограды и здания храма православного Версток. *Царкоўны архіў парафіі Вярсток*, машынапіс.

Тапаграфія дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі Гацькоў, Арэхвічаў і Праневіч. *Беларускі каляндар на 1990 г.*, с. 168—174, карта.

ІІІ-ці рэйд праваслаўнай моладзі 25.07. — 31.07.1991 г. *Czasopis*, 1991, н-р 7-8, карта.

Тапаграфічныя даследаванні, картаграфія і графіка храма ў Вярстоку. *Czasopis*, 1991/1992, Nr 12/1, план.

Тапаграфія дарог, мастоў і гідраграфічнай сеткі сяла Аўгустова. *Czasopis*, 1992, Nr 2/3, рыс. карта.

Графика Суражской древнейшей церкви. *Лампада*, 1992, н-р 3, рыс.

Тапаграфія помнікаў, участка зямлі праваслаўнай царквы сяла Стрыкі. *Czasopis*, 1992, н-р 4, рыс., план.

**Р. С.**

## КУПЛЯЙЦЕ "ПАГОНЮ"!

Інфармуем чытачоў, што ў нашай рэдакцыі можна купіць двухтыднёвік "Пагоня". Выдаецца ён Культурна-асветным фондам "Бацькаўшчына" ў Гродне і з'яўляецца беларускай трыбунай, адкрытай для выказвання розных пунктаў гледжання, розных аўтараў з любых краін, гарадоў і вёсак.

Адзін экземпляр "Пагоні" каштуе 1000 зл., а з дастаўкай па пошце - 2500 зл.

# ГІСТОРЫЯ ШКОЛЫ, ЯКОЙ ДАЎНО ЎЖО НЯМА

*/заканчэнне/*

Зараз пасля вызвалення /год навучання 1944-45/ школы ні ў Дубяжыне, ні ў Мокрым не існавалі, а вёскі ў значнай ступені былі спаленыя. У будынках былой школы ў Дубяжыне і крамы ў Мокрым нейкі час жылі пагарэльцы. У Мокрым аднак, на працягу некалькіх месяцаў, прыватнае навучанне вёў нейкі Барыс /прозвішча невядомае/, праўдападобна родам са Снежак або Сабятына. Вучыў ён па хатах.

У школьным годзе 1945/46 стараннем асветных улад Бельска-Падляшскага ў Мокрым арганізуецца 4-класная польская школа з беларускай мовай навучання ў першым класе /гэтая спецыфіка была адменена ў палове шасцідзесятых гадоў/ і з датковым навучаннем роднай мовы ў трох наступных класах /утрымалася яно да апошніх дзён школы/. Школа размясцілася ў будынку былой крамы. Заняткі вяліся адным настаўнікам, у злучаных класах на дзве змены: раніцай вучыліся III і IV класы, пасля поўдня - I і II. Закончыўшы IV клас, вучні прадаўжалі навуку ў поўнай 7-класнай, а потым у 8-класнай Пачатковай школе ў Дубяжыне. Першай настаўніцай, якая кіравала макрэнскай школай, была Люба Гладкевіч. Яна працавала тут 2 гады.

У школьным годзе 1947/48 працу ў Мокрым пачынае дасведчаны настаўнік Ілья Бэрнат, але па прычыне - як напісана ў хроніцы - беспадстаўнай прэсавай інтэрвенцыі /?/ быў ён змушаны пакінуць школу ўжо зараз пасля першага паўгоддзя. З 1950 года з'яўляецца ён настаўнікам роднай мовы ў Бельскім беларускім ліцэі. Ілья Бэрнат - незабыўна, светлая постаць у памяці многіх выпускнікоў ліцэя.

З пачатку 1948 года да канца навучальнага года 1949/50 школа не мела свайго настаўніка, а ўсе дзеці хадзілі ў Дубяжын.

Школа ў Мокрым аднавіла сваю дзейнасць у верасні 1950 года. Да чэрвеня 1958 года ўзначальвае яе настаўніца А. Фірсовіч. Вядзе яна, між іншым, курсы для непісьменных.

У навучальным годзе 1953/54 кіраўніцтва школы абнімае пажылы настаўнік Якубовіч, які часам жыве ў настаўніцкім пакойчыку - "канцылярыі", - але пераважна даязджае або звычайна прыходзіць з Бельска. Вучыў ён у вёсцы 7 гадоў, гэта значыць, да чэрвеня 1960 г. Падчас хваробы ў школьным годзе 1957/58 заступаў яго дубяжынскі настаўнік Міхал Шурбак.

Ад пачатку навучальнага года 1960/61 з вучнямі займаецца настаўніца Лідзія Хіліманюк з дому Сычэўская - жонка працуючага ў мясцовым асяродку здароўя фельчара Мікалая Хіліманюка. Пакінула яна сваю школу па сваёй просьбе летам 1966 года і разам з сям'ёй пераехала ў Беласток, дзе муж, спярша паступіўшы ў Медыцынскую акадэмію, знайшоў новае месца працы.

Аўтар гісторыі школы - Уладзімір Шклярук - працаваў у Мокрым 2 гады: з 1 верасня 1966 да канца чэрвеня 1968 года. Прыехаў ён з сям'ёй з Кназазоў і пасяліўся ў хаце, тады жыхаркі Беластока, Валянціны Прафірук /тут, дарэчы, жыло і сужонства Хіліманюкоў/. Дачка Анеля стала вучаніцай школы ў Мокрым, а старэйшы за сястру Юрка вучыўся ў Дубяжыне. На працягу свайго даволі кароткага знаходжання ў Мокрым Шклярук правёў рамонт школы, арганізаваў разам з моладдзю культурна-асветніцкую дзейнасць. Найбольш мнагалюдна жыхары вёскі прыходзілі ў святліцу на навагодніх ёлкі і маладзёжныя беларускія "камедыйкі" - пастаноўкі такіх вядомых п'ес, як "Дзесяць гектараў", "Мікітаў лапаць", "Конская кніжка" ды іншыя.

Летам 1968 года У. Шклярука перавялі ў Шчыты. Кіраўніком школы ў Мокрым стала Ніна Астапчук.

У другой палове шасцідзесятых гадоў раптоўна пачаў падаць лік вучняў. У верасні 1966 года было яшчэ ў школе 28 дзяцей, у 1967 - 22, а ў 1968 - ужо толькі 17. Школа спыніла сваю дзейнасць у 1973 г. менавіта па дэмаграфічнай прычыне, а вучні, якія яшчэ заставаліся, пайшлі ў Дубяжын і Кнарыды.

Пасля гэтага, да жніўня 1990 года, у школьным будынку была крама бельскага ГСу.

У пасляваенны час у чатырохкласнай Пачатковай школе ў Мокрым вучылася напэўна больш за сотню дзяцей. Сёння, калі ў вёсцы жыве ўсяго каля сотні чалавек, адзін толькі хлопчык ходзіць у школу ў Дубяжын, а трое - вучацца ў сярэдніх школах Бельска.

Незалежна ад індывідуальных лёсаў і плыняў ды меандраў XX-вечнай гісторыі, першая школа некалькіх пакаленняў маіх аднавяскоўцаў засталася быццам помнік нашай шчырай удзячнасці. Сёння стаіць яна ў ціхай самоце...

**ЮРКА БАЕНА**



*Найлепшыя вучні ў навучальным годзе 1966/ 1967. Злева: Ірка Нікіцюк, Паўлік Пракапюк, Юрка Баена і Анеля Шклярук.*

# БАС - ЗГАС?

*Працяг са стар. 1*

сотні размалёваных дзевак у мініспадніцах ды столькі ж ахвотных да бойкі хлапчукоў. Бяда толькі ў тым, як ім растлумачыць, што такое БАС і навошта ён. Іншая прапанова выйшла ад Рэвізійнай камісіі - распусціць Аб'яднанне. Яна адразу ўпала, бо для такога вырашэння патрэбны намнога мацнейшы кворум ад таго, які і так не змог сабрацца. Справа "запыпілася" на вызначэнні новага тэрміну - прысутныя пагадзіліся, што мае гэта быць 27 лютага.

**ДАКУЧЛІВЫ НЕДАХОП КАДРЫ**

Кожны любіць сабе пагуляць на "Атрасінах" або на "Басовішчы". Такі ўжо ў нас склад думкі. Жывем у польскім грамадстве ды асімілюемся, а нават болей - хочам гэтай асіміляцыі. З другога ж боку за ўсякую цану імкнемся захаваць нешта "сваё". Супярэчлівасць гэтая выяўляецца ў вялікай прысутнасці моладзі на згаданых мерапрыемствах. Калі сягнуць у недалёкае мінулае, то можна заўважыць, што асаблівая актыўнасць студэнцтва праяўлялася ў час змагання за рэгістрацыю Беларускага аб'яднання студэнтаў ды пазнейшага фармавання яго структур. Сёння адно і другое дасягнутае, а ўсякае змаганне, акрамя змагання з працай, страціла сэнс. Клопат з правядзеннем чарговага з'езда БАСу шмат у чым пацвярджае кампрамісны падыход беларускага студэнцтва да рэчаіснасці. Спажываць студэнцкую культуру - так, з ахвотаю, я ж беларус, але арганізаваць, стварыць, ці проста прыйсці да прагаласаваць на з'ездзе - чаму я, хай гэта зробяць тыя, што заўсёды.

Эх, знікаем.

**НОВАЯ ФОРМА СПАБОРНІЦТВА**

У лютым 1992 года адбыўся ў Бельску-Падляшскім першы беларускі матч - паміж зборнымі Беларускага дэмакратычнага аб'яднання і Звязу беларускай моладзі. Здавалася тады, што такія сустрэчы ўвойдуць у традыцыю, а беларускае асяроддзе заквітнее разнастайнасцю кантактаў. Час, аднак, паспяхова пазбаўляе ілюзій. Сёння, калі ўжо спаборнічаць, то ў чым іншым: хто першы збярэ кворум?

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# МУЗЫЧНАЯ ШКОЛА Ў БЕЛЬСКУ?

*- Пра музычныя інструменты з Беларусі для музычнай школы ў Бельску даведаліся мы па беластоцкім радыё, як пра нейкую брыдкую афёру...*

**Васіль Ляшчынскі:** Я пра ўсю справу ўпершыню пачуў, калі скантактаваўся са мною прадстаўнік Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Знайшоў ён мяне праз Гмінны асяродак культуры ў Орлі. І што аказалася? Беларускі дзеяч ад нас нарасказваў у Менску, што мы тут ствараем музычную школу. Гэта, зразумела, няпраўда. Мабыць і была калісьці пра нешта такое размова, але ўсё гэта адбывалася ў сферы разважанняў, планаў. Думалі мы тады, каб на аснове пачатковых школ Беласточчыны правадзіць, прыкладам, пластычныя конкурсы ды здольную моладзь накіроўваць у мастацкія школы Беларусі. Ніколі аднак усур'ёз не ішло пра стварэнне асобнай школы.



*- Што, аднак, з гэтымі інструментамі?*

**В. Ляшчынскі:** З размовы з прадстаўніком Міністэрства культуры Беларусі я адчуў, што міністр, пачуўшы пра нашу школу, даручыў яму афармленне гэтай справы, бадай, ці не пад пагрозай звальнення з працы. Яны там нарыхтавалі з дзесятак піяніна і акардэонаў ды іншыя інструменты, прыдбалі чатырох кваліфікаваных настаўнікаў музыкі, якія гатовы ехаць на працу ў Польшчу! Кантакт быў пададзены на мяне - я аформлю кватарунак і харчаванне. Гэта і праўда, што, карыстаючыся школьнаю сталоўкай "тройкі" ды асабістымі кантактамі, магу гарантаваць адно і другое. Шмат хто пра гэта ведае. Але ж тут людзі мелі прыехаць на працу ў характары настаўнікаў музыкі.

*- Як нібыта мела б выглядаць тая праца?*

**В. Ляшчынскі:** На пачатку ад сябе мушу сказаць, што ў рамках нашай агульнаадукацыйнай пачатковай школы немагчыма арганізаваць вучням нармальную музычную адукацыю. Ну, нібыта тэарэтычна можна спрабаваць у форме гурткоў, дадатковых заняткаў. Вымагае гэта аднак змены гэтак званай сеткі гадзін - дзеля гэтага патрэбная акцэптацыя Міністэрства нацыянальнай адукацыі, за якою стаіць вялікая бюракратычная працэдура. Акрамя гэтага голас дырэктара школы ў такой справе недастатковы - патрэбная яшчэ грамадская падтрымка. Зусім аднак немагчыма зладзіць з праграмай пачатковай школы той парадак заняткаў, які прадставіў беларускі бок.

*- Як выглядаў той план?*

**В. Ляшчынскі:** Яны запланавалі чатыры штаты ды шэсць гадзін заняткаў на вучня - дзве гадзіны заняткаў з інструментам і чатыры гадзіны спеваў. Усе заняткі індывідуальныя - адзін настаўнік працуе з адным вучнем.

*- Наколькі мне вядома, гэта нармальны парадак працы ў музычнай школе ў Беларусі.*

**В. Ляшчынскі:** Зразумела, толькі што гэтае немагчыма ажыццявіць у нашай агульнаадукацыйнай школе. У нас музычная адукацыя дзяцей выглядае так, што здольныя дзеці ходзяць на дадатковыя заняткі ў музычную школу, якая ўжо ў Бельску ёсць. Другі бок усяе справы - гэта праца замежнага настаўніка ў нас і яго статус. Тут няма так, што нагаварыў, нагаварыў і прыняў на працу. На ўсё існуюць законы, якіх не пераскочыш. Замежнаму настаўніку школа забяспечвае кватэру, як неабходны варунак. Акрамя гэтага трэба яму даць поўную зарплату польскага настаўніка плюс 50 працэнтаў. Пэўна, што, беручы пад увагу курс залатоўкі і рубля, настаўнікам з Беларусі было б карысна працаваць на такіх умовах. Хаця, калі б іх тут пасяліць, хутка адчулі б яны дабрадзействы нашага рынку. Сумяваюся, ці аставалася б ім па 300 тысяч злотых на гэтак званы абмен. Пра ўсё гэта я расказаў у час маёй сустрэчы з прадстаўніком беларускага міністэрства.

*- А ці вядома нешта пра тыя няшчасныя інструменты?*

**В. Ляшчынскі:** Ведаю, што справай гэтай зацікавілася Беларускае таварыства. Хочацца тут дадаць, што такія неабдуманыя дзеянні, як у гэтай справе, прыносяць нам, беларусам у Польшчы, толькі шкоду. З аднаго боку, дзеячы, якія імкнуцца прадстаўляць нашу грамадскасць у Менску, найчасцей не дбаюць, каб усю справу забяспечыць як след. У выніку атрымліваюцца такія брыдкія непаразуменні. Мы трацім толькі давер у вачах тых, якія маглі б нам у нечым дапамагчы. Мы, як беларуская грамадскасць у Польшчы, не маем свайго разумнага прадстаўніцтва. Вось у чым бяда.

*- Дзякую за размову.*

Гутарыў
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

# СВЕТ УЛАДЗІСЛАВА ЗАВАДСКАГА

Нарадзіўся ён 6 ліпеня 1952 г. у падгайнаўскіх Навасадах. Пасля заканчэння пачатковай школы вучыўся ў Драўнінным тэхнікуме ў Гайнаўцы. Потым год вучыўся ў Політэхнічным інстытуце ў Беластоку, адкуль пераведўся на аддзяленне канструкцыі і будавання сельскагаспадарчых машын Політэхнічнага інстытута, што ў Растове-на-Доне. Дыплом інжынера атрымаў ён у 1978 г. Вярнуўся ў свае родныя мясціны. Нейкі час працаваў у гайнаўскім СКРы. Зараз з'яўляецца настаўнікам матэматыкі ў Пачатковай школе ў Старакорніне. Жыве з жонкай і дачкой у Гайнаўцы.

Шырэйшаму кругу жыхароў Гайнаўшчыны Уладзіслаў Завадскі вядомы перш за ўсё як таленавіты фатограф. Фатаграфаванню прысвячае ён амаль кожную свабодную хвіліну. Найбольш цікавіць яго этнаграфія ваколіц Гайнаўкі і прырода Белавежскай пушчы. Выяўлены ім аб'ект ці краявід наведвае з фотаапаратам шмат разоў, у розныя поры дня і года. І толькі тады, калі зловіць найбольш адпаведны момант, націскае спуск маментальнай вытрымкі. Гаворыць, што ўся таямніца добрага здымка заключаецца ў тым, што трэба любіць тое, што фатаграфуецца. У кожны здымак трэба ўкласці частку сваёй душы. Таму і здымкі У. Завадскага заваражваюць гледача своеасаблівай інтымнасцю, трапнасцю кампазіцыі, пачуццём эстэтыткі і сублімацыяй прыгажосці.

У. Завадскі паказваў свае працы на многіх выстаўках у Гайнаўцы і Дубічах-Царкоўных. Крыху яго здымкаў публікавалася ў беластоцкай прэсе. Час ад часу фатаграмы У. Завадскага змяшчае і „Ніва". Зрэшты, як прызнаўся сам аўтар, „Ніву" лічыць ён найбольш адпаведнай газетай для сваіх здымкаў. Нашым чытачам прапануем сёння тры ягоныя працы.

**ПЁТР БАЙКО**







# ПЕРШЫ ВЕК БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

XV і XVI стагоддзі - час не сустраканага раней пад'ёму культуры еўрапейскіх народаў, перыяд яе глыбокіх зменаў. Рэнесанс, рэфармацыя і контррэфармацыя перавярнулі гісторыю Еўропы. Іменна ў гэтую эпоху наступае рэвалюцыя ў кніжнай справе - паяўляецца кнігадрукаванне, нараджаецца аграмадная "Галактыка Гутэнберга", бесперапыннае развіццё якой забяспечыла поспех сацыяльна-палітычнага і інтэлектуальнага перавароту.

Хвалі Рэнесансу, яго гуманістычныя ідэі, дайшлі і да акраінаў кантынента. Тут таксама суправаджала і друкаваная кніга.

476 гадоў таму назад, 6 жніўня 1517 г. у чэшскай Празе выдадзеная была першая друкаваная беларуская кніга - Псалтыр, частка "Бивлии руской", якая выходзіла ў свет аддзельнымі выпускамі на працягу некалькіх гадоў. Біблію гэту надрукаваў беларускі гуманіст, выхаванец еўрапейскіх універсітэтаў, доктар Францішак Скарына.

У пачатку 1520-х г.г. у Вільні - сталіцы Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, у састаў якога ўваходзілі беларускія, рускія, летувіскія, а да 1569 года і ўкраінскія землі - Ф. Скарына выдаў новыя кнігі, прызначаныя для чытання людзьмі простымі, "посполитыми".

З гэтай пары беларускае кнігадрукаванне хутка развіваецца, а скамплікаваная моўная сітуацыя, выкарыстоўванне ў літаратурнай практыцы побач з царкоўнаславянскай і старабеларускай мовамі лацінскай і польскай моў, прыводзіць да паяўлення разнавіднай шматмоўнай друкаванай літаратуры, якая становіцца вядучай сярод шэрагу народаў Усходняй Еўропы. У лічбовых адносінах яна, напрыклад, перавышае ў некалькі разоў падобную шматмоўную ўкраінскую друкаваную літаратуру. Самых кніг, выдадзеных беларусамі кірылічным шрыфтам удвая больш, чымсьці ўсіх друкаваных кніг на Украіне да канца XVI стагоддзя.

Жанрава-тэматычнае, моўнае і ідэйнае багацце беларускай друкаванай і рукапіснай літаратуры эпохі Адраджэння, знаходжанне яе адразу ў двух галоўных рэчышчах развіцця еўрапейскай хрысціянскай культуры: усходнім, візантыйскім, праваслаўным і заходнім, лацінскім, каталіцкім і пратэстанцкім, чыніць яе унікальнай з'явай. Як паказваюць падлікі, да 1596 года, гэта значыць прыкладнай граніцы эпохі Адраджэння на Беларусі, на беларускай зямлі і за яе межамі для беларусаў праваслаўных, католікаў і пратэстантаў выдадзена было каля чатырохсот кніг, больш за чацвертую частку якіх - кірылічным шрыфтам. Агульны тыраж усіх выданняў перавысіў трыста тысяч паасобнікаў. Гэта абазначае, што на беларускі рынак хлынуў аграмадны паток поліканфесійнай літаратуры, які дакладна змяніў камунікацыйную сістэму грамадства.

За другую палову XVI ст. - час рэгулярнага кнігадрукавання ў Вялікім княстве Літоўскім - для беларусаў тут было выдадзена толькі ўтрая менш кніг, чымсьці для палякаў у Польшчы, якіх у той час было амаль тры разы больш.

**Беларускія кірылічныя выданні саставілі сабою ледзь не палову ўсіх кірылічных выданняў XV-XVI ст.ст., пабачыўшы свет у розных краінах. Прыкладна, такія ж адносіны, калі разглядаць агульныя тыражы выданняў. Гэтыя цыфры становяцца больш яркімі, калі ўлічыць, што ў Расеі да 1596 г. выйшла ў свет крыху больш за дзесяць выданняў, а на Украіне - трыццаць.**

Усю друкаваную літаратуру Беларусі да 1596 г. можам класіфікаваць паводле шэрагу прыкмет, перш за ўсё, паводле моўнай прыналежнасці і шрыфтаў, якімі друкаваліся кнігі - лацініца, кірыліца, грэчаскі. Найбольш было кніг на польскай мове, крыху менш на лацінскай, чацвертая частка - на "славенской" і старабеларускай мовах, па адной на грэчаскай і італьянскай. Самыя аб'ёмістыя і скамплікаваныя па складу - праваслаўныя кірылічныя выданні. Найменш арыгінальныя - выданні лацінамоўныя, значная частка якіх мае афіцыйны характар, пры чым, шмат якія з іх - малааб'ёмныя.

Беларускім тыпографам і выдаўцам удалося выпрацаваць некалькі тыпаў друкаваных кніг з непаўторнымі рысамі, якія вылучаюць іх з ліку іншых падобных выданняў. Асаблівая тут заслуга тыпаграфіі Францішка Скарыны, Пятра Мсціслаўца, братоў Мамонічаў, Віленскага брацтва.

**Напрыканцы XVI ст. беларускія друкаваныя кнігі літаральна навадні́лі сямімільённую тады Расею, для якой Мамонічы сталі выдаваць спецыяльна, як бы на свайго роду грамадскі заказ.** Мамонічы мелі поўнае права зазначыць у сваіх выданнях, што выпускаюць іх для распаўсюджвання "в краях Московских, Волошских, Сербских и Булгарских". Захаваныя экземпляры сведчаць пра зацікаўленне беларускай друкаванай літаратурай у многіх краінах Еўропы: ад туманнага Альбіёну да каменнага пояса Уральскіх гор, ад Скандынавіі да зямель балканскіх народаў.

**Падлікі паказваюць, што сёння ў свеце захавалася каля чатырох тысяч экземпляраў выданняў кірылічным шрыфтам XV-XVI ст.ст., палова сярод якіх - беларускія.** Абсалютная большасць беларускіх кілірычных выданняў XVI стагоддзя сёння па-за Беларуссю, галоўным чынам у Расеі: у Маскве ды іншых вялікіх гарадах.

Беларускіх выданняў лацінскага шрыфту найбольш у Польшчы, Літве, на Украіне, унікальныя экземпляры - у Швецыі, Вялікабрытані, Францыі ды іншых краінах.

**ЮРЫ ЛАБЫНЦАЎ**
**/Масква/**






**Паважаны Спадар**
**Галоўны Рэдактар!**

Звяртаемся да Вас з просьбай напісаць у "Ніве", дзе мы маглі б купіць зборнік вершаў Д. Шатыловіча "Эцюды падарожжа". Наш сусед атрымоўвае "Ніву" з Орлі і дзякуючы яму мы прачыталі ў 26 нумары рэцэнзію В. Шведа на гэту кніжку. Наш знаёмы прывёз з Рыгі "Эцюды падарожжа" і многім беларусам з Даўгаўпілс вершы вельмі спадабаліся. У Даўгаўпілс жыве многа беларусаў, рускіх і палякаў, якія разумеюць беларускую мову. Тут дзейнічае польскае кола "Прамень", да якога належыць многа беларусаў-католікаў. Яны добра ведаюць беларускую мову і прасілі нас даведацца, дзе можна купіць гэты зборнік. Ці ў Вашай рэдакцыі прадаюць яго? А можа ў БГКТ? Ці можа ў Беластоку ёсць кнігарня, якая прадае беларускія кнігі? Ад нас многа знаёмых ездзіць у Польшчу і ў Беласток, і тады можна будзе зайсці да Вас і купіць гэту кнігу. Напішыце, колькі яна каштуе. Будзем вельмі ўдзячныя, калі Вы напішаце аб гэтым у "Ніве". Жадаем Вам усяго найлепшага!

**Лігія Кумпіна,**
**Валянціна Грынько,**
**Ларыса Якімава,**
**г. Даўгаўпілс**

**Ад рэдакцыі:** Апошнім часам нашы літаратары не толькі выдаюць свае кніжкі за свой кошт, але і самі займаюцца іх распаўсюджваннем. Аўтар "Эцюдаў падарожжа" просіць ахвотных купіць зборнік /каштуе ён 15 000 злотых/ пісаць яму на адрас:

Dymitr Szatyłowicz
ul. Czerniakowska 99/101 m. 10
00-718 Warszawa

# БЕЛАРУСЬ СВЯТКАВАЛА

Раней жыхары Беласточчыны мелі магчымасць глядзець савецкае тэлебачанне, але ўжо пару месяцаў толькі беларускае. Яшчэ не так даўно ў час Каляд у інфармацыйных сервісах паказвалі мінутны рэпартаж з нейкай царквы і пару слоў каментарыя, пасля ўсё ішло нармальна — таварыш такі ... паехаў туды, іншы сказаў ..., — найчасцей тое, што ўсе і так гэта сто разоў чулі, — што выканалі план у Свярдлоўску, а ў Омску змагаліся за мір і г. п. Няраз цэлымі гадзінамі паказвалі фільмы, рэпартажы, трансляцыі з акадэміяў, прысвечаных памяці нейкага сатаніста, які ў 20- ці 30-х гадах у скуранай куртачцы разбураў цэрквы, пасылаў тысячы людзей на расстрэл, у турмы і канцлагеры. Безупынна паўтаралася імя прарока Леніна, а там, дзе ляжала кансерва з Ільіча, стаяла шматкіламетровая чарга, каб пакланіцца гэтаму „святому".

Толькі пяць гадоў патрабавала г. зв. „савецкае грамадства", каб пераўтварыцца ў нацыянальныя супольнасці, адшукаць сваю традыцыю, гісторыю, культуру і рэлігію і пачаць самастойна думаць. За год беларускай дзяржаўнасці адбудавалася амаль усё, што ў душы народа затопталася дзесяткамі гадоў.

Сёлета святкаваць Каляды дома я і не планаваў, але калі раніцай уключыў менскае тэлебачанне, змяніў свае ранейшыя планы. Тыя гледачы ў Польшчы, якія ў сваім тэлевізары маюць магчымасць прымаць Менск, атрымалі падарунак, якога цэлымі гадамі ў калядныя святы зайздросцілі палякам. Нават пры камуністах Варшава рыхтавала сваім тэлегледачам спецыяльную праграму, якая стварала атмасферу нечага незвычайнага. У студзені г.г. я ўпершыню пабачыў, што святкуе амаль увесь мой народ. Дзяржаўнае тэлебачанне паказвае па чарзе Магілёў, Віцебск, Заслаўе, Менск, Гродна, Гомель, Вільню, Беласток, Берасцейшчыну, Піншчыну і зноў Менск, усюды спяваюць калядкі на беларускай мове; спяваюць студэнты, ліцэісты, сяляне, дзеткі; спяваюць у філармоніі, у царкве, у прыватных кватэрах і на пляцы Волі ў Менску. Людзі расказваюць пра старыя традыцыі — вілейную вячэру, калядаванне, цешацца, як дзеці, што знайшлі тое, што даўно шукалі... Атмасфера сапраўднага свята.

Нават яшчэ год таму, такое штосьці магло б толькі прысніцца, а сёння — гэта рэчаіснасць. Можна тады было застацца дома, бо ў Беластоку, на жаль, не адчуваецца гэтай святочнай атмасферы, не чуваць роднай мовы на вуліцы. Спаланізаваныя беларусы называюць сябе „праваслаўнымі палякамі" і святкуюць у канспірацыі.

У менскім тэлебачанні безупынна хтосьці перадаваў калядныя пажаданні беларускаму народу — пісьменнікі, акцёры, палітыкі, журналісты. Былі і пажаданні з Беластока — ад Міколы Бушко, лідэраў Праваслаўнага брацтва — Яраслава Харкевіча і Андрэя Цэтры, Міколы Гайдука, дзетак з Нарвы. Гэтыя апошнія жадалі сваім калегам з Беларусі самых пяцёрак у школе. Усе прамаўлялі на прыгожай беларускай мове.

Вядома, у гэты дзень пажаданні таксама перадавалі святары і епіскапы — з Беласточчыны і Беларусі. На жаль, звяртаючыся да беларускага народа, ніхто з паважаных айцоў не загаварыў на роднай мове — прамаўлялі выключна на „общепонятном языке".

Кіраўніцтва беларускага тэлебачання абмежавала да мінімуму ў гэты дзень выступленні ўсялякіх калгасных мафіёзі, менскіх скарумпаваных наменклатуршчыкаў ці гродзенскіх жулікаў — прадуктаў савецкай эпохі.

Тэлебачанне паказала народ, які прачнуўся, святкаваў і цешыўся сваім існаваннем — так як іншыя народы.

М.




### БЯГУЦЬ ГАДЫ

Хаця на двары мароз трашчыць,
Свята да нас хутка бяжыць,
Свята хутка зближаецца,
А нам гадоў прыбаўляецца...
Час ідзе — год за годам,
Таксама робіцца з народам.
На свет да нас адны прыходзяць,
А старыя людзі ад нас адыходзяць.
Як да мора рэчкамі цякуць воды,
Таксама праходзяць нашы годы.
Як былі малымі, не думалі аб тым,
Што кожны з нас будзе калісьці старым,
Што будзем дзяцей у люльцы калыхаць,
Каб хучэй заснулі, песні ім спяваць.
Дзеці падрастуць і ўнукаў дачакаем,
Колькі то гадоў за сабою маем? —
Сядаем за печкай і з жонкай злічаем.
Так паўспамінаем маладыя часы,
Якой харошай былі мы красы.
Тады добрае здароўе было,
Але ўсё гэта даўно нам прайшло.
Цяпер з жонкай нідзе мы не ходзім,
За ручку дзяцей сваіх мы не водзім.
Цяпер не маем ніякай бяды,
Калі самі зможам напіцца вады.
Мы сваю пенсію маем —
То і гора яшчэ не знаем...

### МАЯ КАЛЯДКА

Прыходзяць калядкі
Да нашае хаткі.
Песні спяваюць,
Дабра нам жадаюць:
Каб у вашай хаце
Прыбыло па дзіцяці,
Каб ваша кабыла
Добра вас вазіла,
Каб ваша карова
Заўсёды была здарова,
Каб ваша авечка
Піла ваду з рэчкі,
Каб вашы куры
Не гублялі пёры,
Каб ваш пятух
Працаваў за двух,
Каб ваша котка
Лавіла мышэй таропка,
Каб мышы і шчуры
Не рабілі ў мяшках дзюры,
Каб сабака у будзе
Брахаў на людзей,
А вам, гаспадарам,
Хадзіці у храм
Маліцца Богу,
Мець шчасліву дарогу...
Каб добра жылі,
Здаровы былі,
Водку папівалі
І гора не знали!
Песню заспявалі вам.
Дайце грош калядкам.
Можаце даць каўбаску,
Харошу, як на абразку.
За гэта дзякуем вам,
Добрым гаспадарам!

МІКАЛАЙ ПУЧКО

## КАМУНІЗМ І ВУЧОНЫЯ

Вучоны вучонага бароніць — адносіцца гэта да артыкула сп. Д. Шатыловіча „Камунізм і магілкі" („Ніва" н-р 52), дзе ён адклікаецца да маёй нататкі з 23-га нумара „Нівы" — „Што пасеялі, тое і пажынаюць". Ён піша: „Як быццам бы М. Панфілюк толькі што нарадзіўся і не ведае, якая сітуацыя была ў тыя гады. Калі б нават А. Барскі меў адвагу і напісаць аб гэтым (стан праваслаўных магілак на Беларусі), то сумняваюся, ці „Ніва" мела б адвагу гэта надрукаваць".

Паважаныя вучоныя! Лягчэй было б замест камуністычнай маны нічога не пісаць, а не сёння тлумачыцца, што не было іншага выхаду. Праўда, пра камунізм пачалі пісаць толькі пасля яго смерці, бо раней — паводле вас — „Ніва" не надрукавала б у сябе такіх крытычных артыкулаў. Дык трэба было прабаваць, так як я гэта рабіў. Многія мае артыкулы загінулі, але шмат „Ніва" надрукавала. Вашыя вучоныя матэрыялы хутчэй убачылі б свет у газеце, чым мае. Мяне смешыць, калі Д. Шатыловіч піша: „А М. Панфілюк хоча, каб А. Барскі крытыкаваў у прэсе Савецкі Саюз. Ці аўтар калісьці сам гэта хоць з адзін раз зрабіў?"? Я СССР не крытыкаваў, але крытыкаваў нашу камуністычную бюракратыю тут, на месцы. За гэта мяне, вядома, як „любілі" ў гміне, у партыі: так „любілі", што многа разоў клікалі на „споведзь" у камітэт партыі ў Дубічах-Царкоўных, а нават аднойчы мой дом наведаў нейкі маёр з беластоцкай бяспекі. А ці вы, паважаныя вучоныя, мелі ў сябе падобны „візіт"? Вам не хацелася „падпадаць" і псаваць сваіх характарыстык! Калі крытыку надрукавала „Беластоцкая газета", то ці не надрукавала б яе і „Ніва"? У нас не было жалезнай рукі Сталіна і яго памагатых. І не ўсе камуністы былі сволачамі — былі сярод іх і парадачныя людзі, якія любілі свой народ — і аб такіх я калісьці таксама многа пісаў.

На заканчэнне хачу аднесціся да наступнага выказвання Д. Шатыловіча: „Я думаю, што Мікалай Панфілюк памятае, якія былі магілкі перад вайною, якія тады ставілі помнікі". На жаль, не памятаю, бо мяне тады яшчэ не было на свеце, але з расказаў людзей знаю, што былі такія, як Вы пішаце, бо за санацыі народ наш жыў вельмі бедна. А цікава, як жылі людзі ў СССР у калгасах у той самы час і як у іх выглядалі тады магілкі? Пішаце, што ў Грузіі, Арменіі ці на Украіне магілкі былі дагледжаны. Адсюль вывад, што там людзі шанавалі сваю спадчыну і бальшавізм не закараніўся так глыбока, як на Беларусі. На Беларусі камунізм закараніўся таму, што людзі не шануюць сваёй гістарычнай спадчыны, сваёй роднай мовы, месцаў пахавання сваіх продкаў.

Паважаны сп. Д. Шатыловіч! Не гнявайцеся на маю адгалоску, мо яна і надта вострая. Але я такі: што думаю, тое і пішу.

З пашанай да Вас.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

## „УНДРА"

Быў пачатак васьмідзесятых гадоў, перыяд, калі Захад закідаў нас дарамі, асабліва амерыканскімі: раслінным маслам і жоўтым сырам. Дайшлі гэтыя дары і на вёску, якая добра памятала яшчэ пасляваенную дапамогу УНРЫ.

* * *

Бабка Надзя ўжо збіралася класціся спаць, калі ў вакно нехта пастукаў. Бабка не спяшаючыся выключыла святло і толькі тады адсунула заслонку ды выглянула на двор. Хаця жыла адна ў сваёй хатцы, смерці і зладзеяў не баялася. Заўсёды ўсё ж чалавек адчувае сябе пэўней, калі бачыць кагосьці, а не той хтосьці яго. А зрэшты, здзіўлена была, каго тут упоцемку носіць.

Пад вакном, неспакойна пазіраючы раз на вуліцу, раз на бабчыны вокны, стаяла жанчына з суседняй хаты, такая ж старая і адзінокая, як і бабка Надзя, Стэпачка. Усцешылася, калі ў цёмным акне мігнуў твар суседкі.

— Надю, ході хучэй, ундру прывэзлі, усе ідуть у свэтліцю.

— А ну йіе з тэю ундрою, нэ пуйду, — абыякава махнула рукою бабка Надзя.

— Ході, Надю, кажут, сыр дают, — настайвала суседка.

— А ну ёго з сыром, вжэ я роздягнулася, — не здавалася старая.

— То што, кінь, Надю, штоленька на сэбэ і пойдэм — угаварвала тая далей.

— Нэ пуйду, Стэпочко, — цвёрда пастанавіла бабуля Надзя, — вжэ буду лягаті!

Расчараваная суседка, якая так добра хацела сваёй сяброўцы, паволі паплялася ў святліцу. Няўцям ёй было, што можна адрачыся ад сыру толькі дзеля таго, што чалавек падрыхтаваўся да сну.

* * *

А бабка Надзя заўсёды такая. Ёй многа не трэба. Яна б і злодзею, здаецца, не пашкадавала. Вось нядаўна мужава нявестка ў Беласток на пару дзён яе забірала, то кажа: „А вы так хату пакідаеце? На такі ключ замкнутую?! То хоць грошы мо з сабой вазьміце, яшчэ хтосьці ўлезе ды забярэ!" „А-а, колі вжэ так воны ёму потрэбны, то нэхай бэрэ!" — выпашыла бабка і злёгку, як заўсёды, прымкнула дзверы.

Яшчэ да нядаўна рэнты бабцы хапала аж надта. Зрэшты, і сёння яшчэ застаецца ёй на падарункі мужавым дзецям і ўнукам. На сябе многа не выдасць. А вельмі цешыцца, калі яны прыязджаюць на вёску наведаць яе, удаву па іхнім бацьку. Вельмі шкадуе іх, лёс у дзяцінстве забраў ім маці. Хаця яна паявілася ў гэтай хаце, калі мужавы сыны ўжо пайшлі ў свет, лічыць іх за сваіх. А нявесткі? Нявесткі ж іншай свякрухі не ведаюць, ім яна родная. Таксама родная і ўнукам. Цешацца малыя на думку аб паездцы на вёску, чакаюць сустрэчы са сваёй бабуляй.

Лягчэй зразумець бабцы дзяцей, бо і сама яна была сіратою. Бацьку страціла яшчэ маленькай дзяўчынкай. Сірочы лёс праследаваў яе ўсё жыццё. Памятае, як былі ў бежанцах, як прыйшоў новы бацька, як служыла ў яўрэяў у Бельску, а пасля як немцы вывезлі ў Прусію да баўэра. З гэтых „паездак" засталося адно добрае: у яўрэяў гатаваць навучылася, так па-панску неяк, не пасялянску.

Вось і выйшла, што ўсё жыццё бабка Надзя па чужых бадзялася і толькі ў пажылыя ўжо гады знайшла сваё прыстанішча ў гэтай хатцы пры самотным удаўцу. І цяпер, хаця старога ўжо даўно няма ў жывых, бабка адчувае, што яна ў сябе і не зусім адна, хаця сваіх дзяцей не мела.

Смерці не баіцца. Наконт гэтага яна спакойная: кожны ж павінен памерці, а як яна памрэ, дык не выйдзе на вуліцу, нехта гэты факт заўважыць ды паведаміць дзецям. На пакручастых каляінах свайго лёсу бабка навучылася пакоры.

І яшчэ навучылася ў сваіх жыццёвых вандроўках задавальняцца малым, не насіць у сабе злосці і зайздрасці, быць талерантным да людзей. І ў гэтым, бадай, крыніца таго, што яна яшчэ моцная ў свае восемдзесят пяць. Яшчэ сама і ў печы напаліць, і ў хаце прыбярэ, і перапалошча. Усюды ў яе чысценька і акуратна. А і раз у дзень прынамсі зварыць нешта. Не галодная!

У горад, сказала, да дзяцей паедзе толькі тады, калі не дасць рады напаліць.

* * *

І каб мела яна цяпер, калі да сну ўжо падрыхтавалася, нейкай „ундрай" пераймацца, лішнім кавалкам сыру...

У ложку ўжо бабка Надзя выслухала весткі з краіны і з-за мяжы і выключыла сваё „радыўко".

АДА ЧАЧУГА

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## КАМЕННЫЯ "БАБЫ" НА БЕЛАРУСІ

Каменныя скульптурныя выявы (ідалы, бабы, куміры, балваны, богі), вядомыя на Беларусі, датуюцца ў асноўным другой паловай І тысячагоддзя н.э. Яны адлюстроўвалі аблічча правадыроў або герояў ці абагульнялі рысы ўяўных багоў. Ідалы звычайна ставіліся на капішчах - месцах для адпраўляння язычніцкіх культаў і ахвярапрынашэнняў. Капішчы, і адпаведна ідалы, былі племянныя, радавыя, сямейныя.

У часы прыняцця хрысціянства драўляных ідалаў спальвалі, а каменных разбівалі і скідалі ў рэкі і азёры. Заступнікі язычаскай веры, каб ратаваць сваіх куміраў, часта закопвалі іх. У Беларусі вядома больш за 30 знаходак каменных "баб". На некаторых з іх былі высечаны крыжыкі, і яны аб'яўляліся хрысціянскімі святымі.

Шырокавядомы шклоўскі ідал (знойдзены ў 1963 годзе) захоўваецца ў Дзяржаўным музеі Беларусі. Падобны да шклоўскага ідал, які быў знойдзены пры пракладцы новай вуліцы ў Слоніме ў 1934 годзе.



Старажытныя стылізаваныя скульптуры знаходзілі каля Ваўкавыска, Лепеля, Рэчыцы, на Аршаншчыне і ў іншых месцах. На Браслаўшчыне на адным з астравоў Богінскага возера яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя стаяў каменны ідал "Стод". Вядомы ў Беларусі трохаблічныя і чатырохаблічныя ідалы, ідалы ў выглядзе слупоў накшталт сусветна вядомага збручскага ідала: каля вёскі Ульянавічы Сенненскага раёна, вёскі Слабада Чэрвенскага раёна ("Цар Давід").

Вывучэнне язычніцкіх ідалаў дае магчымасць не толькі пазнаць вераванні нашых продкаў, але і ўявіць узровень развіцця мастацтва ў тыя далёкія часы.

**ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ**

## ГЭТА ЦІКАВА

Гракі зімуюць у Чэхаславакіі, Румыніі, Венгрыі, Германіі, Францыі; шпакі - у Германіі, Бельгіі, Галандыі, на поўдні Англіі, у Паўночнай Афрыцы; дразды - у Францыі, Італіі, Алжыры; жураўлі, буслы, чаплі - у Афрыцы.



*Мы ідзем да вас у госці...* **Фота В. Кассакоўскага**

## МАЛЕНЬКАЯ- МАЛЕНЬКАЯ СТАРАЯ І МАЛЕНЬКАЯ-МАЛЕНЬКАЯ КОСТКА

*/АНГЛІЙСКАЯ КАЗКА/*

Жыла раз у маленькай-маленькай вёсцы ў маленькім-маленькім доміку маленькая-маленькая старушка. Аднаго разу яна надзела маленькі-маленькі капялюш і пайшла на шпацыр. Ідучы па маленькай-маленькай сцежцы, яна прыйшла да маленькіх-маленькіх веснічак. Адчыніла яна маленькія-маленькія веснічкі і апынулася на маленькім-маленькім полі. Адразу ж каля маленькіх-маленькіх веснічак, на самым краі маленькага-маленькага поля маленькая-маленькая старая ўбачыла маленькую-маленькую костку. Яна крыху падумала і сказала сама да сябе:

- З гэтай маленькай-маленькай костачкі я змагу прыгатаваць маленькі-маленькі рондаль супу на вячэру.

Маленькая-маленькая старая паклала маленькую-маленькую костку ў маленькую-маленькую кішэню свайго маленькага маленькага паліто і пайшла да свайго маленькага-маленькага дома.

У сваім маленькім-маленькім доме яна паклала маленькую-маленькую костку на маленькую-маленькую паліцу, а сама лягла адпачыць у маленькім-маленькім ложку. Але не паспела яна і секунду паспаць, як з маленькай-маленькай паліцы пачуўся танюсенькі-танюсенькі галасок:

- Аддай маю костку!

Гэта крыху здзівіла маленькую-маленькую жанчыну, але яна схавалася пад маленькай-маленькай коўдрай і паспрабавала заснуць. Але з маленькай-маленькай паліцы пачуўся трохі паграмчэлы танюсенькі-танюсенькі галасок:

- Аддай маю костку!

Гэта крыху больш здзівіла маленькую-маленькую жанчыну. Таму яна яшчэ глыбей схавалася пад маленькай-маленькай коўдрай і заплюшчыла вочы. Але праз якую секунду танюсенькі-танюсенькі галасок з маленькай-маленькай паліцы крыкнуў яшчэ грамчэй:

- АДДАЙ МАЮ КОСТКУ!

Гэта яшчэ больш здзівіла маленькую-маленькую жанчыну. Яна выставіла маленькую-маленькую галаву з-пад маленькай-маленькай коўдры і крыкнула з ўсяе сваёй маленькай-маленькай моцы:

- Костка на паліцы, ТАМУ САМ ВАЗЬМІ ЯЕ!

## АВЕЧЫ ХВОСТ

*/ШАТЛАНДСКАЯ КАЗКА/*

Жыў раз пастух, які на ўзгорку пасвіў авечак. Было холадна, імглiста, і яму было даволі цяжка сабраць авечкі ў кучу. Вечарам ён пералічыў іх. Адной не хапала. Пастух пайшоў яе шукаць. Шукаў, шукаў, і нарэшце прыйшоў на балота, дзе знайшоў авечку, якая ледзь не патанула - толькі галава і хвост тырчалі з мулу.

Убачыўшы авечку, пастух схапіў яе за хвост. Але воўна ў яе была вельмі цяжкая. Пастух скінуў плашч, зноў схапіў за хвост і пацягнуў. Але нічога не атрымалася. Пастух скінуў кашулю і зноў моцна пацягнуў за хвост, але авечка не рухалася. Тады пастух папляваў на далоні, ухапіўся за хвост і пацягнуў з ўсяе моцы. Авечка нават не дрыгнула, але хвост адарваўся.

А калі б хвост не адарваўся, пастух бы яшчэ доўга цягнуў авечку і казка бы яшчэ доўжылася. Але пастуху болей не было за што цягнуць авечку, таму казцы канец!

З англійскай пераклаў **АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**



*МІКОЛА ІГНАЦЮК, Рыбалы*

**НЕ ЎМЕЎ ПАШАНАВАЦЬ**

Вось прыгожая зіма,
Ў мяне саначак няма.
Я яшчэ ў мінулым годзе
Паламаў санкі на лёдзе.

Можа дзед пра іх забыў
І другія мне зрабіў?
Адгукнула яму маці:
Не умеў пашанаваці!

Як Галіне шаль парвалі,
Дык ёй новага звязалі.
Рукавічкі як згубіла,
Бабка іншы ёй зрабіла.

Як я лыжы пагубіў,
Сабе з бочкі парабіў,
Гузікі павырываў -
То іх дротам паўшываў.

Хто ж та можа так сказаці,
Што не ўмею шанаваці?!
Як насочка адарваў,
То шнурочкам прывязаў...

**БОБІК**

У бабулі ёсць сабачка,
Яго Бобікам завуць.
Сцеражэ хлявок бабулі,
Малачка яму даюць.

Будку новую зрабілі,
Бо прышла да нас зіма.
А чаго яшчэ забылі?
Там жа печкі ў ёй няма!

Пэўна ў хаце будзе грэўся,
З акна хаты паглядаў:
Бо хлявок не замыкаўся,
Каб курэй ліс не пакраў.

На дварэ бушуе ўюга!..
Бабка, дзверы адчыні!
Пад хлявок прышла лісюга!
Бяры вілы дый гані!

* * * * * * * * * * * * * *

*ВІКТАР ШВЕД*

**ЧАМУ ТРЭБА ЎМЕЦЬ ЧЫТАЦЬ?**

Настаўніца вучняў у класе,
Якім аніяк не сядзіцца,
Пытае: - Чаму ў хуткім часе
Чытаць трэба вам навучыцца?

- Па-мойму таму, - кажа Вацік, -
Каб мелі мы чым заняцца,
Калі тэлевізар у хаце
Пачне безупынна псавацца.

**КОНЬ У БОТАХ**

Цудоўным летнім ранкам
Дзед па вясковым бруку
З аўтобуснага паўстанку
Вёз гарадскога ўнука.

Ля дзедавага плоту
Азваўся ўнук Сярожа:
- Твой конік мае боты?
Так цокае прыгожа!

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Студзень году пачатак, а зімы палавіна.

Студзень хаты студзіць, рана гаспадыню будзіць.

Студзень халодны - будзе год плодны.

Студзень мяце - ліпень зальe.

Калі ў студзені дажджы - дабра не жджы.

На Новы год снег падае зоркамі - лета пагоднае; калі на Новы год снег з раніцы - уся зіма будзе снежная.

# ІНСТЫНКТ МАЦЯРЫНСТВА

Многія віды млекакормячых могуць пастаянна і актыўна абараняць сваё патомства. Дзеці буйных капытных, напрыклад, кормяцца малаком маці звычайна да з'яўлення новых дзяцей. У зуброў давялося наглядаць, калі маці корміць не толькі сёлетніх, а і леташніх цялят. Такія выпадкі ўласцівыя таксама тарпанам, аленям. Гэтыя факты сведчаць не толькі пра тое, што маці доўга клапоцяцца пра сваіх дзяцей, але ў выпадку страты нованароджанага берагаюць сябе ад захворвання на мастыт.

Праўда, не ўсе млекакормячыя і нават буйныя драпежнікі могуць актыўна абараняць сваё патомства. У прыватнасці, да такіх належыць воўк. Ён пазбягае сустрэч з чалавекам і не нападае на яго, у адрозненні ад рысі, пры разбурэнні гнязда са шчанятамі.

Гадоў дзесяць назад у Белавежскай пушчы выпадкова было знойдзена логава гэтых рэдкіх тут драпежнікаў, адтуль чуўся піск ваўчанят. Калі назаўтра сюды наведаліся паляўнічыя, вывадка ў нары не аказалася. Пачалі шукаць і непадалёку ў кустах знайшлі пецярых ваўчанят. Праз дзень, ужо ў іншым квартале, дзесці кіламетры за чатыры ад логава, зноў адшукалі воўчыя сляды каля пакінутай лісінай нары. З дапамогай норнага сабакі выцягнулі яшчэ адно ваўчаня такога ж узросту, як і першыя пяць. Відаць, ваўчыца пасля наведвання людзьмі логава імкнулася перанесці сваіх дзяцей у бяспечнае месца і не паспела. Ніякіх актыўных дзеянняў супраць чалавека, які пагражаў яе патомству, ні ў першым, ні ў другім выпадку яна не праявіла.

У паляўнічых існуе думка, што і сярод млекакормячых ёсць свае "зязюлі". Датычыцца яна ў асноўным зайцаў. Маўляў, адна зайчыха нараджае дзяцей, а корміць іх іншая, якая выпадкова знайшла гняздо. На самай справе гэта не так.

Зайцы, русак і бяляк, маюць высокую жыццяздольнасць. Менавіта яны, бадай, самыя бездапаможныя сярод млекакормячых. Перш чым залегчы на адпачынак, яны заблытваюць сляды, а потым робяць далёкія скачкі-скідкі да часовага прыстанішча. Гэта дазваляе ім своечасова заўважыць сабаку, ваўка, ліса або іншага ворага, агледзецца і выбраць зручны шлях для выратавання.

У той жа час сярод усіх млекакормячых, якія жывуць у Беларусі, зайцы адзіныя, хто не займаецца па сапраўднаму выхаваннем патомства. Яно абмяжоўваецца рэдкім /адзін раз за суткі/ кармленнем. Зайчыха вяртаецца да гнязда толькі тады, калі пачынаюць балець напоўненыя малаком залозы. Здараецца, што галодныя малыя самі шукаюць маці-вандроўніцу. Прырода ж паклапацілася, каб з нараджэннем даць ім своеасаблівае "заечыя" перавагі. На свет зайчаняты з'яўляюцца з расплюшчанымі вачамі, з добра развітым абаронным футрам, зайздросным слыхам. І галоўнае, яны не маюць ніякага паху. Пасля некалькіх кармленняў густым і высокакаларыйным малаком маці малыя робяцца моцнымі і рухомымі, могуць адправіцца ў неблізкую ад гнязда дарогу, або наогул пакінуць яго.

Асабіста мне давялося бачыць, як проста на шашы зайчыха карміла сваіх дзіцянят. Дарэчы, калі б у гэты час да яе трапіў чужы малы, яна прыняла б і яго. Такая даволі рэдкая з'ява сярод млекакормячых дапамагае вырашыць зайцам праблему сіроцтва.

Праўда, наглядаліся выпадкі, калі нават дамашнія жывёлы дапамагалі дзіцянятам дзікіх. У аднаго лесніка Свіслацкага лясніцтва свіння з парасятамі часта гуляла па лесе. Аднойчы яна вярнулася дамоў з падвоеным статкам - са сваімі прывяла шэсць паласатых дзічкоў, маці якіх, відаць, загінула. Малыя заставаліся на падворку некалькі тыдняў, а падраслі - падаліся ў лес. Гэта дае падставы меркаваць, што апякунства над сіротамі магчыма і сярод дзікоў у прыродзе.

Вядомы выпадкі кармлення дзіцянят аднаго віду жывёл іншымі. Напрыклад, карова дазваляла ў лесе ссаць сябе аленяняці. На лясным хутары Плянта ў кошкі, якая на гарышчы хлява нарадзіла чатырох кацянят, нечакана для гаспадароў з'явіўся пяты - вушасты. Маці, відаць, злавіла зайчана як здабычу для дзіцянят, а потым - усынавіла. Прыёмыш спаў разам з кацянятамі, карміўся малаком іх маці. Цікава, што калі гэтую незвычайную сям'ю вынеслі ў двор, каб сфатаграфаваць, кошка імкнулася аднесці іх назад і першым схапіла ў зубы зайчаня.

Тут мы маем вельмі рэдкі прыклад усынаўлення і кантакту драпежніка і ахвяры. Ён заслугоўвае ўвагі як эксперымент і ўяўляе навуковую цікавасць. Такая з'ява яшчэ раз пацвярджае, што над усімі інстынктамі жыцця мацярынскі - мацнейшы.

**СЦЯПАН ШОСТАК**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Маломy кожны дзень даводзілася хадзіць у яслі паўз двор, на якім жыў злосны сабачка. Сваім брэхам ён сустракаў і праводзіў хлопчыка. Але аднойчы сабачка чамусьці парушыў сваю традыцыю. Гэта вельмі ўразіла малога. Ён доўга думаў над гэтам, а потым зрабіў вывад:

- Тата, сабачка, мусіць, сапсаваўся. Трэба яго аддаць у рамонт.

***

- Памыліцца можа кожны, - разважае малы Кастусь, - але найбольш памылак робяць тыя, хто ўмее пісаць.

***

Маці звяртаецца да сына:

- Нашто ты абуў галошы, на вуліцы няма гразі.

- А я яе найду, - абяцае малыш.

***

Малая дачушка хоча расказаць маці сон, які ёй прысніўся, але раптам адумалася і кажа:

- Ой, маманька, нашто табе расказваць, ты ж была там са мною!

***

У хату ўбягае ўстрывожаны Міколка:

- Мама! Там на вуліцы тата са слупам размаўляе!

- Ды гэта ж ён п'яны!

- Ці п'яны ён, я не ведаю, але тата ледзь на нагах стаіць!

***

Бацька: - Пецька, не цягні ката за хвост!

Пецька: - Я ж яго не цягну... Я толькі трымаю, а ён сам цягне!

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**



ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# КРАПІВА

Крапіва распаўсюджана амаль на цэлым зямным шары за выключэннем арктычнай і трапічнай зонаў. У Польшчы выступае яна паўсюдна: каля хат, у агародчыках, зарасніках, лясах, на палянах, пасбішчах і пры дарогах. Крапіва любіць добрую глебу.

Маладыя галінкі крапівы людзі спажываюць у якасці салаты. Часта маладыя лісткі крапівы дадаюць да кармоў для хатняй птушкі і свіней. Валокны са сцябла крапівы выкарыстоўвалі ў якасці дадатку да горшых гатункаў тканін.

Крапіва з'яўляецца перш за ўсё каштоўнай лячэбнай раслінай, на якую сёння існуе вялікі попыт. У Германіі, напрыклад, крапівы выкарыстоўваецца каля 500 тон у год, яна тут стаіць на трэцім месцы пасля рамонкаў і семені ільну.

Для фармацэўтычных мэт збіраюць ад чэрвеня да верасня здаровае і добра развітае лісце і сушаць яго ў цёмным і прадуўным месцы. Часамі крапіву косяць касой і, калі яна прывяне, абрываюць лісце і сушаць. Справа ў тым, што завяўшая крапіва менш пячэ.

У некаторых краінах сыравінай з'яўляецца не лісце, а верхнія галінкі крапівы, якія яшчэ не збуцвелі. Іх таксама сушаць у цёмным і прадуўным месцы. Такую крапіву дастаўляюць Балгарыя, Венгрыя, Расія, Югаславія і Албанія.

Восенню, па меры даспявання, збіраюць таксама ягады крапівы.

Позняй восенню ці ранняй вясной выкопваюць таксама карэнні крапівы звычайнай, мыюць яе і сушаць пры тэмпературы 40 градусаў Цэльсія.

Крапіву ведалі і выкарыстоўвалі ўжо старажытныя лекары. Рэкамендавалі яны яе ў якасці лякарства, выклікаючага менструацыю і змякчаючага чыры, мачагоннага, паспяховага таксама пры лячэнні ад укушэння сабакі, пры ракавых нарывах, пры апарваннях, вывіхах, крывацёку з носа, запаленні лёгкіх і г.д. Маладая крапіва, якую спажывалі вясною ў якасці гароднiны, мела ачышчаць кроў. Пры паралічы рэкамендавалі націраць свежай крапівой нерухомыя ногі ці рукі, напар з сушанага лісця крапівы лічыўся за цудадзейны пры рэўматызме.

Польскі прыроднік Кшыштаф Клюк (XVIII ст.) лічыў, аднак, што старажытныя лекары перабольшвалі значэнне крапівы ў медыцыне.

На што сапраўды ўздзейнічае крапіва і што яна лечыць?

Перш за ўсё з'яўляецца яна далікатным мачагонным сродкам.

У народнай медыцыне лічыцца яна супрацьрэўматычным і ачышчаючым кроў сродкам.

Прэпараты з лісця крапівы прысяпшаюць працэс абмену рэчываў у арганізме чалавека, на што ўплывае, з аднаго боку, шырокі склад вітамінаў, а з другога боку — мінеральных соляў.

Напары з лісця крапівы ўстрымліваюць крывацёкі, а таксама папярэджваюць дробныя крывацёкі ў страўнікавым тракце.

Прэпараты з крапівы павялічваюць таксама ўзровень гемаглабіну і колькасць чырвоных крывінак.

Лісце і карэнне крапівы зніжае крыху ціск крыві.

Крапіўныя прэпараты павялічваюць таксама выдзяленне жалудачнага соку і з'яўляюцца (нязначна) жоўцягоннымі. Добра ўздзейнічаюць таксама на працу падстраўнікавай залозы (trzustki). Нязначна змяншаюць таксама ўзровень цукру ў крыві.

Нядаўна ў крапіве былі сцверджаны чыннікі, ахоўваючыя людскі арганізм ад вірусаў.

Напары з крапівы, якімі змазваюць скуру галавы, спрыяюць росту валасоў.

Часамі занадта вялікія дозы крапівы могуць выклікаць алергію, хваробы страўніка, пухліны і слабое выдзяленне мачы. Нельга выкарыстоўваць крапіву ў якасці мачагоннага сродка пры пухлінах з прычыны хваробы сэрца ці нырак. Пра гэтыя справы неабходна памятаць.

Што датычыць прэпаратаў, у складзе якіх знаходзіцца лісце крапівы, дык паўсюдна вядомы ў нас „Reumogran" і „Reumosan", якія рэкамендуюцца пры рэўматычных хваробах, „Diabetosan" — зёлкавая мяшанка, дапамагаючая пры цукровай хваробе, „Vagosan" — выкарыстоўваецца пры некаторых жаночых хваробах для ірыгацыі, вадкасць „Seboren" для валасоў — настойка на каранях крапівы. Усе гэтыя прэпараты выпускаюцца фірмай „Гербаполь". Крапіва ўваходзіць таксама ў састаў нямецкага прэпарата „Urtica plus" і некалькіх іншых, якія прымяняюцца ў І і ІІ фазах пры пераросце прастаты.

**Адвар з лісця крапівы.**

Заліць 2 лыжкі лісця 2 шклянкамі гарачай вады, закіпяціць і варыць паволі 3 мінуты. Няхай напарваецца 15 мінут, а тады працадзіць. Піць па 1/2 шклянкі 2—3 разы ў дзень пасля яды. Прымяняць на працягу 2—3 тыдняў, прымаючы адначасова таблеткі вітаміна В1.

Дзецям пры малой адпорнасці на інфекцыі падаваць у залежнасці ад узросту 1—2 чайныя лыжачкі ці 1—2 сталовыя лыжкі гэтага напару тры разы ў дзень.

ЭСКУЛАП



## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я ў гасцях у маёй сяброўкі. Мы сядзім за сталом, застаўленым як на свята. На адным крэсле сядзіць, як чалавек, вельмі вялікі сабака. Потым госці кудысьці выходзяць, застаемся ўтраіх — я, сяброўка і сабака. Гэта не быў яе сабака, а быццам знаёмы, таксама госць, значыць, ён не быў уласнасцю нікога з гасцей, а быў запрошаны. Што абазначае гэты сон?

**Маня**

Мне прыснілася, што мы ідзем з маёй мамай да яе на працу. У мяне былі зімовыя канікулы, і мама вадзіла мяне з сабой, бо не было з кім пакінуць. Я ў першым класе. Уваходзім у будынак, дзе мама працуе, а тут я бачу, што ў дзверы хоча ўслізнуцца вялізны пацук. Я перапужалася, а мама схапіла гэтага пацука за хвост і павесіла яго на дзвярах, закруціўшы моцна хвост вакол клямкі.

**Кася**

Сніцца мне, быццам у маёй кватэры ў дзвярах, якія вядуць у ванную, стаіць голая жанчына з нашага блока. Яна аж празрыстая. Прыходзіць мая суседка, глянула на яе і кажа: „Ты хацяў майткі нацягні. Гэта ж сорамна, зараз прыдзе гаспадар". Яна паслухалася і надзела майткі.

**Вера**

**Маня!** Твой сон сведчыць аб тым, што ў тваёй сяброўкі, у якой былі госці, ёсць зайздросныя сябры. Яны адчуваюць у адносінах да яе злосць і нянавісць. Паколькі сабака ў тваім сне выступіў у ролі госця тваёй сяброўкі, дык і ад яго нічога добрага нельга спадзявацца.

**Кася!** А твой сон прадвяшчае, што мама расправіцца з ворагам, якога наогул цяжка ёй пазбыцца (той пацук).

**Вера!** Твой сон абазначае нейкую страту.

**АСТРОН**

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

Каб зняць са сцен старыя шпалеры, трэба двойчы змачыць іх гарачай вадой.

Каб дзверы не рыпелі, вазьміце кавалачак графіту ад алоўка і пакладзіце яго ў завесу, якая рыпіць.

Ключ, які з цяжкасцю паварочваецца ў замку, трэба пацерці воскам або мылам.

Каб заладзіць шчыліны ў падлозе, заліце іх расплаўленым бітумам, выдаліце лішкі, а затым пафарбуйце.

Калі рэжаце гуму, змазвайце нож мылам: і рэзаць будзе лягчэй, і край атрымаецца роўным.

Трэшчыну ў аконным шкле пакрыць тонкім слоем бясколернага лаку. Тонкая, празрыстая плеўка трымаецца два-тры гады, не змываецца. Наносіць лак лепш са знешняга боку.

Каб фарба не высахла і на ёй не ўтварылася корка, пакладзіце на яе паверхню тоўстую паперу і заліце слоем пакосту ці машыннага масла.

**АСЯ ПРАЛЕСКА**

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1/ невялікая жывёліна, прыстасаваная да жыцця пад зямлёй, 3/ горад, адміністрацыйны цэнтр правінцыі ва ўсходняй Бельгіі, 5/ ядомы грыб-паразіт, які расце на ламачч, пнях, каранях і ствалах дрэў, 7/ стандартны кавалак паперы, 10/ ніжняя частка адзежы, пала, 12/ бессаромны, беспрынцыповы чалавек, назола, 13/ невялікі мяшочак з паперы, пакунак, 14/ група злачынцаў, разбойнікаў, 16/ празмерна, да прагнасці ашчадны чалавек, 18/ жанчына, якая не выйшла замуж пасля смерці мужа, 19/ чалавек, індывідуум, персона або граматычная катэгорыя, 21/ карэнны жыхар Крыма, 22/ актуальная пара года, 23/ мангольскі селянін, жывёлавод.




**Уніз:** 1/ чорны напітак, 2/ статак коней, якія пасуцца разам, 3/ паўднёвае дрэва ці куст, лісце якіх ужываецца як прыправа або на вянкі для пераможцаў, 4/ шэры афрыканскі папугай з ярка-чырвоным хвастом, 6/ маскоўскі патрыярх, аўтар царкоўна-абрадавай рэформы, якая давяла да расколу ў другой палове XVII стагоддзя, 8/ графік, парадак, распарадак чаго-небудзь, 9/ абшыўка драўляных пабудоў, 10/ дазорная вышка пажарнай часці, 11/ сябелюбівы чалавек, 15/ падтрымка, дапамога, 16/ асобы, якія суправаджаюць важную персону, 17/ таполя дрыжачая, 18/ пастанова, якая мае сілу закона, дэкрэт, 20/ бясколерны газ, які складае значную частку паветра.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 49 н-ра. Управа:** жолаб, жалудак, жанчына, жнівень, згустак, жніво. **Улева:** золак, завулак, зайчаня, знявага, зносіны, заява.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Яніна Кандрацюк** з Катлоўкі і **Уладзімір Адамюк** з Чыжоў.



**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міравовіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

**SYRENOWICZ**

Злезе з яго старая луска
І ў скрыжалях сівых дзён
Карэнні чыстабеларускія
Ў сваіх продках знойдзе ён.

**ДУБІЦКІ ПАШТАР**

Гнідамі ў нас гаці гаць,
А я чысты, вашу маць!

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ВОСТРЫЯ КАМЕНЧЫКІ

**ШМАТПЛАНАВАМУ ТВОРЦУ**

У творах заклікае да сумлення
Сваё і маладое пакаленне,
Славутасцей хапае у абдымкі,
А вечарамі строчыць ананімкі.

**ЯНУСУ**

За вочы бэсціць, дзёгцем мажа
І несусвецiцу нясе,
А стрэне - кампліменты кажа
І доўга дзве рукі трасе.

**НЕЗАМЕННАМУ**

Да ручкі ён усё давёў,
Гаспадару засведчыў вернасць,
А той яго з міністраў перавёў
Узначальваць "Міласэрнасць".

**БЕЗНАДЗЕЙНАМУ**

Не спадзявайся. Прэмій не дадуць
Ні ў першым, ні ў апошнім туры,
Таму, што ў лаўрэаты тыя пруць,
Хто аціраўся пры наменклатуры.

**ЛАД БЯЗЛАДДЗЯ**

Што нідзе не бачна ладу,
І рэформы не ідуць,
Бо змаганне за уладу
Міні-партыі вядуць.

**ПАРТЫЯ**

Была ў нас партыя адна,
І члены дужа вартыя,
Калі ўсё выграблі да дна,
Ізноў збіраюць партыю.

**ГАЛОЎНАЕ**

Каб ўсё ішло на лад,
Не хапайце зорак з неба,
Калі ёсць надзейны зад,
Дык і галавы не трэба.

**СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ**

# НАЎКА




Малюнак А. Гармазы

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Ці ты задаволены з падарункаў Дзеда Мароза? — пытаюць бацькі малога Адама.

— Не вельмі. Зараз пайду да таго нашага суседа і скажу яму, каб больш такіх рэчаў не прыносіў. Калі прыйдзе яшчэ раз, няхай прынясе мне відэа!

* * *

— Чаму цётка Марына, калі прыйдзе ў госці, адразу ў той жа дзень ад'язджае?

— Яна добра ведае, што з госцьмі бывае так: на першы дзень госць — золата, на другі — серабро, а на трэці — медзь і дадому едзь.

* * *

— Свякруха памерла, а ты ўжо трэці дзень плачаш. Ты ж наракала на яе, чаму тады плачаш?

— Ці ты думаеш, я па свякрусе? У мяне рука баліць, таму я хаджу і плачу.

* * *

— Цікава! Што за год дваццаць будзе рабіць нашая нявестка, калі ажэніць сына?

— Напэўна будзе, так як ты цяпер, наракаць на нявестку.

* * *

У адным горадзе жыў мужчына, які выглядаў як хлопчык гадоў шасці. Апрача росту, усё было ў яго нармальнае. Аднойчы выпіў ён трохі і выйшаў на вуліцу. Убачыў жанчыну. Захацелася яму зрабіць нейкі жарт.

Пачаў плакаць. Было ўжо цемнавата і жанчына падумала, што гэта дзіця.

— Чаго ты, хлопчык, плачаш? — спытала яна.

— Мама недзе пайшла, а я не магу папісяць, бо не ўмею расшпіліць нагавічак.

— Колькі табе год? — спалохалася жанчына, дакрануўшыся да штонікаў.

— Трыццаць тры, — адказаў хлопчык.

* * *

— Каханая! Выйдзі за мяне, — просіць Васіль Маньку.

— Калі перастанеш піць, тады выйду, — адказвае любая.

— Клянуся, дарагая, што не буду піць больш, чым выпіў учора, — шчыра абяцае Васіль.

**АЎРОРА**

## АНЕКДОТЫ

— Скажы мне, Нінка, любіла ты ўжо каго перада мной?

— Клянуся, Валодзя, што не. Я толькі захаплялася рознымі мужчынамі, іх прыгажосцю, інтэлігентнасцю, розумам, адвагай. Ты ў мяне першы, якога люблю без гэтага ўсяго...

* * *

У начны бар прыходзіць наведвальнік і пытаецца ў барменкі:

— Ці я быў тут учора?

— Так, вы былі ў нас.

— Ці я прапіў тут пяцьсот тысяч злотых?

— Так, прапілі.

— Слава Богу! А я ўжо думаў, што згубіў...

* * *

— Дарагая! — крычыць муж, урываючыся ў пакой. — Мы атрымалі галоўны выйграш у латарэі! Мы цяпер багатыя!

— А адкуль ты ўзяў грошы на білет? — падазрона пытае жонка.

* * *

Па вуліцы ідзе чалавек з пінгвінам. Сустракае паліцыянта і пытаецца:

— Скажыце, што мне рабіць? Прыблукаўся да мяне пінгвін і ходзіць за мною.

— Ідзіце ў заапарк.

На другі дзень паліцыянт зноў сустракае таго ж чалавека з пінгвінам.

— Ну што, былі ў заапарку?

— Былі, — адказвае дзядзька. — Сёння ў кіно пойдзем.

* * *

— З якой нагоды ты ўжо трэці дзень напіваешся?

— Шапку выпіўкай адзначаю, каб даўжэй насілася.

— Якую шапку?

— Купіў пазаўчора ў краме.

— А дзе ж яна?

— Недзе ўчора згубіў.

* * *

Прыходзіць Кастусь да Парфена:

— Хачу, Парфен, у цябе даведацца, як ты на базар дабіраешся. Я ўжо тройчы галасаваў на дарозе — ніводная машына не ўзяла... Што за чартоўшчына?

— Вось дзівак! — усміхнуўся Парфен. — А я дабіраюся... Я ж заўсёды галасую з паўлітрам...

— Гэта ўжо занадта! — кажа Кастусь, — Трапіць нейкі замухрышка, нажлукціцца і пачне дарогаю гарох лушчыць...

— Не кажы, Кастусь. У мяне ўсё прадбачана: я ў пляшку наліваю ваду, толькі затычку гарэлкаю краплю, каб пахла...

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Справа, аб якой хачу табе напісаць — не зусім сардэчная, але для мяне яна вельмі важная. А датычыць яна маёй сяброўкі.

Мне цяпер 25 гадоў, ужо я замужняя і працую. Мая сяброўка — таксама. Не была яна занадта прыгожая, была і ёсць тоўстая і нязграбная, але мужа знайшла і прыгожага, і мілага, і двое дзетак цудоўных маюць, і пабудавалі прыгожую вілу. Усё ў яе жыцці склалася добра.

Мы з гэтай дзяўчынай пасябравалі яшчэ ў першым класе падставовай школы. Сябравалі таксама нашы бацькі. Я вельмі прывязалася да яе. Яны ж часта бывалі ў нашай хаце, а мы — у іх, у школе мы сядзелі за адной партай. Адным словам, былі ўвесь час разам.

Мы былі блізкія адна другой, але часамі ў дзяцінстве я заўважала ў яе адносінах да мяне нейкую агрэсію. То яна раптам падгаварвала дзяўчынак, каб не бавіліся са мною, то напускала на мяне хлопцаў, то гаварыла мне на злосць брыдкія словы, то ішла ў кіно з іншымі сяброўкамі, не прапануючы мне таго кіно, але так, каб я гэта ведала. Мне было вельмі горка.

У школе ў маёй сяброўкі ніколі не было хлопца, які б „хадзіў" з ёю, або прынамсі „бегаў" за ёю. Але арганізаваць натоўп вакол сваёй асобы — гэта яна ўмела. І тады адчувала сябе моцнай.

Мне ў той час многае было незразумела. Чаму яна, мая сяброўка, адзін раз да мяне вельмі сімпатычная і адданая, а іншым разам становіцца агрэсіўнай і непрыемнай, асабліва ў большай кампаніі?

І толькі цяпер, калі мы сталі дарослымі, яна мне сама ў гэтым прызналася. Трэба сказаць табе, Сэрцайка, што нягледзячы на ўсё, яна менавіта, а не хто іншы, засталася маёй найвярнейшай сяброўкай да сёння. Ёй у дарослым жыцці вельмі пашанцавала. Муж не толькі прыгожы і статны, але вельмі кахае гэту пампушку. Да таго ўсяго ён вельмі зарадны. Усё ўмее зрабіць сам, пабудавалі прыгожы дом, а цяпер адчынілі вялікую фірму. Дзеткі ў іх здаровыя і разумныя. Адным словам, камусьці можа быць горш, чым ім.

І вось цяпер, калі мы прыехалі да іх на Новы год, а жывуць яны ў іншым горадзе, яна мне прызналася. Не гневайся, кажа, за тыя прыкрыя моманты, якія здараліся ў нашых адносінах. Проста я была зайздросная. Ты была прыгожая і зграбная, за табой чарадою хадзілі хлопцы. Ты добра вучылася і ніколі не мела двоек, хадзіла на прыватныя лекцыі замежных моў. Мне занадта вучыцца не хацелася, а вынікамі пахваліцца я любіла. Але мая фігура, кажа, найбольш перашкаджала мне. Я адчувала комплекс горшасці, калі бачыла тваю фігуру.

Не магу табе, Сэрцайка, сказаць дакладна, ці мне стала прыемна ад таго, што яна мне сказала, але неяк палягчэла. Значыць, тыя прыкрасці, якія яна мне рабіла, былі напускныя, значыць, гэта не я заслужыла на такія адносіны, а быў гэта крык яе роспачы! Я ж заўсёды старалася быць у парадку ў адносінах да яе. А цяпер во ёй палепшала і яна спакойна можа сказаць мне ўсю праўду... Вось што было ў мяне на Новы год.

**Ліля**

Ліля! Ну і дзякуй Богу, што ёй палепшала, што пашанцавала ў жыцці. Сярод дарослых бывае яшчэ горш, чым сярод дзяцей, толькі ўсё больш завуаліравана. Зайздрасць — страшнае пачуццё, якое кідае людзей на найгоршыя ўчынкі.

Думаю, што яе добрая жыццёвая сітуацыя будзе спрыяць захаванню вашага сяброўства.

**СЭРЦАЙКА**